№ 4 (698) 26 студзеня 2011
www.nn.by
незалежная газета
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Фініта ля камедыя. Кантракт на імпарт нафты заключаны на ўмовах Расіі**

Старонка 4



**Белсат: «Мы не гатовы прапанаваць працу Сяргею Дарафееву»**

Старонка 15

Тэндэнцыі

## Подых санкцый

Лукашэнкаўцы нервова рэагуюць на крокі Еўрасаюза.

Рэзалюцый па Беларусі Еўрапарламент прымаў ужо нямала. Але гэтую, прынятую ў Страсбургу 20 студзеня, называюць самай жорсткай у гісторыі. Яна была прынятая дэпутатамі аднадушна. Яе падтрымалі нават камуністы. **Старонкі 3, 7.**



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Хвароба інаўгурацыі

Цырымонія прайшла пры пустых вуліцах і ў пахмурнай атмасферы.



Лукашэнка ўжо ў чацвёрты раз прайшоў праз працэдуру інаўгурацыі. На гэты раз яе аднеслі пасля выбараў на рэкордна доўгі час. Яна адбылася праз 33 дні пасля галасавання.

Але нават у гэтыя тэрміны зладзіць нешта святочнае не ўдалося. Нават прынагоднага фуршэту не было.

Як і 2006 годзе, кіраўнік краіны з'явіўся на інаўгурацыю не ў найлепшай фізічнай форме. Увагу найперш прыцягнуў незвычайна асіплы голас Лукашэнкі, а таксама мяшкі пад вачыма. Прамова давалася яму з цяжкасцямі.

**Працяг на старонцы 8.**

**«Вырашылі не адзначаць пышна** гэта свята, калі ў турмах сядзяць прэтэндэнты на трон прэзідэнцкі. З аднаго боку, урачыстасць і пафас, а з другога боку, напружанасць і такая панурасць». Пра інаўгурацыю расказвае Аляксандр Прахана́ў. **Старонка 8.**

## Склад боепрыпасаў, паказаны па БТ, — вялікая ліпа?



Чытачы прывезлі журналістаў «Нашай Нівы» ў «гараж з боепрыпасамі». **Старонка 9.**



**Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Панама**

**Падарожны дзённік Аўгіні Манцэвіч. Старонка 10.**



ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

**Нягледзячы на масавыя затрыманні на подступах да будынка КДБ, некалькі дзясяткаў мінчан здолелі сабрацца перад ім 19 студзеня. Яны трымалі партрэты палітвязняў. Адначасова 50 чалавек паставілі свечкі каля Чырвонага касцёла на плошчы Незалежнасці. На фота: міліцыянт (справа) крычыць на людзей.**

# Дзякуй Адвакату

Я патрапіла на суткі ўпершыню ў 2007-м — мяне прэвентыўна затрымалі перад 25 Сакавіка. Суткі — гэта занадта гучна сказана, мяне проста патрымалі ад пятніцы да панядзелка на Акрэсціна, і далі трое сутак постфактум у панядзелак на судзе.

За дзень да гэтага я выправілася ў юрыдычную кансультацыю, каб скласці папярэднюю дамову з адвакатам на выпадак, калі ў дачыненні да мяне будзе нейкі адміністратыўны пераслед. (Адзін сябар з ліку паплечнікаў прымусіў усіх нас гэта зрабіць. Дзякуй за клопат, дарэчы, — бо тады я гэтага так і не сказала. )

У кансультацыі я патрапіла на яе — маладую жанчыну-адвакатку. Глянуўшы на мяне ўважліва, яна спытала:

— «Малады Фронт»?

— Так.

— Ясна.

Калі мяне ў кампаніі бывалых арыштантаў прывезлі ў суд, яна ўжо прыехала, падбегла да мяне, села побач, абняла, дастала шакаладку з торбачкі, сказала: «Кушай, зайчык». Падышоў мент, гаркнуў на яе: «Гражданочка, отойдите от задержанной!» А яна адказала: «Я вам не гражданочка, я ее адвокат!» — і тыцнула яму ў твар сваё пасведчанне.

На судзе яна білася да апошняга. І хоць гэта было няважна, бессэнсоўна, усё вядома загадзя, а ў тым канкрэтным выпадку і нічога трагічнага, мне было істотна адчуваць, што ёй не ўсё адно, што яна побач. І ўразілася я тады вельмі моцна.

Яна падавала скаргі, яна дамагалася адмены прысуду — гэта можа падацца смешным, калі ўлічыць, што прысуд той — трое сутак постфактум. Але я зноўку адчула, што яна побач і што я для яе важная.

Пасля быў суд над Іванам Шылам у Салігорску [у верасні 2007 года — Рэд.], дзе мяне затрымалі зноў. Я правяла ноч у пастарунку, а раніцай судзіць мяне пачалі без адваката і сведкаў. Пасярэдзіне слухання адчыніліся дзверы і ўвайшла яна, змерыла суддзю гнеўным позіркам і сказала: «Касю? Судзіце? Без адваката?» Страшна стала ўсім. І радасна мне. Не таму, што я спадзявалася, што ўдзел адваката паўплывае на прысуд, а таму, што ведала — ёй не ўсё адно. І гэта бачылі суддзі, хлуслівыя сведкі, сакратаркі і ўсе-ўсе-ўсе.

Яна абараняла мяне і Кэт пасля затрымання на акцыі на коўзанцы 16 студзеня [2008 года, пасля акцыі прадпрымальнікаў, калі быў жорсткі разгон — Рэд.]. Я дагэтуль памятаю, як яна размазала па сцяне амапаўцаў і мянтоў, што сведчылі супраць нас. Яна выставіла іх папросту ідыётамі. І хаця прысуд нам усё адно быў 15 сутак, мы разумелі — ёй не ўсё адно.

На сутках нам прынеслі скаргі, пададзеныя ёю, каб мы азнаёміліся. Гэта было як вітанне з волі.

Пасля вызвалення мы з Кэт прынеслі ёй у кансультацыю кветкі і пакінулі на яе стале.

Адвакат — гэта не той, хто паўплывае на прысуд. Мы не павінны мець ілюзію наконт нашай судовай сістэмы. Сапраўдны Адвакат — гэта той, хто падтрымае ў цяжкі момант, прыйдзе, стане побач, будзе біцца за цябе, нават ведаючы, што сэнсу ў гэтым небагата. Але сэнс ёсць. Дзякуй вялікі, М. Хоць Вы, напэўна, мяне ўжо і не памятаеце, я Вас не забуду.



**Кася Галіцкая**

Актывістка апазіцыі. Працавала перакладчыцай. За кіраўніцтва апазіцыйнай арганізацыяй яе не раз звальнялі з працы.

**Кася Галіцкая, Мінск**

## Спецслужбы цікавяцца: чаму ты не быў на Плошчы?

Да інжынера-будаўніка Аляксея Валабуева прыйшлі проста на працу.

Гутарка адбылася ў кабінеце аднаго з кіраўнікоў прадпрыемства, дзе ён працуе. Нагода для візіту — расследаванне абставінаў масавых беспарадкаў у Мінску 19 снежня. Аднак салігорскі актывіст «Маладога фронту» ў гэты дзень не быў у сталіцы і ў пратэстнай акцыі ўдзелу не браў.

Як паведаміў Аляксей, пра гэта якраз супрацоўнікі КДБ яго і распытвалі: калі не ўдзельнічаў, то чаму?..

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

• **Ярмоленка не адмовіцца ад песняў Някляева.** Кіраўнік ансамбля «Сябры» ў інтэрв'ю «Белгазеце» назваў экс-кандыдата ў прэзідэнты «выдатным паэтам». У той жа час ацэнкі яго як палітыка Ярмоленка дыпламатычна ўнікнуў.

• **ЗША змяншаюць дапамогу Беларусі.** У 2011 годзе ЗША плануюць выдзеліць Беларусі 14 млн даляраў дапамогі. З іх 9 будзе выдаткавана на развіццё дэмакратыі і падтрымку правоў чалавека. Летась Беларусь атрымала $15 млн, з якіх на дэмакратыю было выдзелена больш за 10.

• **«Акно ў Еўропу» на БТ закрыюць?** Як заявіў паверany ў справах дэлегацыі Еўракамісіі ў Беларусі Жан-Эрык Хальцапфель, мэтазгоднасць далейшага фінансавання праграмы на Першым нацыянальным тэлеканале пад пытаннем. Такім чынам ЕС рэагуе на адыёзныя праграмы беларускага тэлебачання, прысвечаныя падзеям 19 снежня.

• **Мінюст папярэдзіў «Грамаду».** Прычынай стала нежаданне «Грамады» праводзіць паўторны 13-ы з'езд. Нагадаем, што 10 кастрычніка 2010 года адбыўся з'езд БСДП (Г), на якім старшынёй партыі замест Ляўковіча быў абраны Анатоль Сідарэвіч. Аднак лукашэнкаўцы дабіваюцца вяртання Ляўковіча.

• **Зіма прыцісну́ла.** 27—28 студзеня чакаецца невялікі снег, на дарогах — галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы можа апускацца да мінус 15—20°С, днём будзе паміж мінус 3 і 12°С.

• **Цукар падаражэе на 10% з 26 студзеня.** Адпаведная пастанова прынятая Міністэрствам эканомікі.

• **Быць ці не быць плэй-оф (хакей, КХЛ)?** «Дынама-Мінск» прайграла ў овертайме чэмпіяту КХЛ у Чэхаве аўтсайдару Заходняй канферэнцыі, мясцоваму «Віцязю» з лікам 3:4. Пасля 49 гульняў «Дынама-Мінск» займае 8-ы радок у Заходняй канферэнцыі (67 балаў). На пяць пунктаў беларусы апярэджваюць ніжагародскае «Тарпеда», але ў валжанаў на тры гульні меней. Цяпер вялікае пытанне, ці трапяць беларусы ў плэй-оф.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by за 19—25 студзеня

- Лукашэнка прыбыў на інаўгурацыю з Колем. Вуліцы Мінска былі пустыннымі
- Нервы на Акцыі салідарнасці. Ціхары хапалі людзей далей ад камер
- Рэпрэсіі выклікалі хвалю эміграцыі з Беларусі
- Склад боепрыпасаў, паказаны па БТ, — вялікая ліпа?
- Еўропа патрабуе новых выбараў
- Затрымалі за тое, што пасміхаўся з Лукашэнкі
- Расійскі Першы канал пра інаўгурацыю: «Мы удержали… одержали победу»
- «Советская Белоруссія» апублікавала папярэджанне ўсім сучасным КГБістам
- + Камера (турэмная) у натуральную велічыню
- Вышыня Канстытуцыі + фота

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакázу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

І.В. са Стаўбцоўскага раёна.
Міхаілу Т. са Слуцкага раёна.
Барысу Л. з Пастаўскага раёна.
Антону Б., Галіне Ю. з Верхнядзвінскага раёна.
Раісе А., Любові Л., Ганне К., Вользе Г. з Віцебска.
Івану Д. з Мядзельскага раёна.
Галіне Ч., Мікалаю Р. з Рэчыцкага раёна.
Святлане К. з Лідскага раёна.
Уладзіславу Л. з Шаркаўшчынскага раёна.
Анатолю І., Л.З., Г.Ш., С.Г., Алене С., А.Б., Л.П., І.Т., Паўлу С., В.К., Л.Ш. з Мінскага раёна.

# Подых санкцый

**Лукашэнкаўцы нервова рэагуюць на крокі Еўрасаюза.**

Рэзалюцый па Беларусі Еўрапарламент прымаў ужо нямала. Але гэтую, прынятую ў Страсбургу 20 студзеня, называюць самай жорсткай у гісторыі. Яна была прынятая дэпутатамі адзінадушна. Яе падтрымалі нават камуністы. Такога Еўропа яшчэ не бачыла, каб у дзень выбараў пасадзілі ў турму ўсіх апазіцыйных кандыдатаў.

Еўрапарламент «рашуча асуджае жорсткія рэпрэсіі з боку міліцыі і КДБ у дзень выбараў» і заклікае «правесці незалежнае і бесстаронняе расследаванне таго, што адбылося», пад эгідай АБСЕ. **(Поўны тэкст гл. на старонцы 7.)**

### Патрабуюць новых выбараў

Упершыню прагучала прапанова ўжыць супраць Беларусі эканамічныя санкцыі. Дэпутаты заклікаюць спыніць усялякія кантакты з лукашэнкаўцамі, увесці візавыя санкцыі супраць іх. Еўрапарламент шкадуе з нагоды таго, што Расія прызнала апошнія выбары ў Беларусі.

Таксама прагучаў заклік наконт недарэчнасці хакейнага чэмпіянату ў Мінску.

Што датычыць эканамічных санкцый, то еўрапейскія парламентары прапануюць замарозіць дапамогу Беларусі па лініях Міжнароднага валютнага фонду, Еўрапейскага інвестыцыйнага банка і Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця. Санкцыі павінны дзейнічаць да той пары, пакуль на волю не выйдуць усе арыштаваныя падчас падзей 19 снежня.

Тым не менш, рэзалюцыі Еўрапарламента маюць толькі рэкамендацыйны характар. Канчатковае рашэнне 31 студзеня павінна прыняць Рада міністраў Еўрасаюза.

### Мартынава і Каткавец не пусцілі ў Нямеччыну

Гаворыцца таксама пра вяртанне візавых санкцый, што дзейнічалі да восені 2008 года. Плюс павелічэнне гэтага спісу.

Польшча ўжо ўвяла абмежаванні на ўезд для беларускіх чыноўнікаў, суддзяў, сілавікоў. Праўда, пакуль ніхто не бачыў гэты спіс.

Беларускае МЗС хутка адрэагавала на такое развіццё падзей: «Гэта кан'юнктурнае і паспешлівае рашэнне, якое сведчыць аб выбары Польшчай канфрантацыйнага шляху», — заявіў прэс-сакратар Андрэй Савіных.

Але пакуль што з візавымі санкцыямі чыноўнікі сутыкнуліся не на прыкладзе Польшчы, а Нямеччыны.

Арганізатары Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы скасавалі запрашэнне беларускаму міністру замежных справаў Сяргею Мартынаву. Нагодай сталі паслявыбарныя рэпрэсіі ў Беларусі. Канферэнцыя прызначаная на пачатак лютага.

Арганізатары адзначылі: штогадовая Мюнхенская канферэнцыя з'яўляецца прыватнай, а не дзяржаўнай. Таму рашэнне пра адмову шэфу беларускага МЗС не варта звязваць з пазіцыяй нямецкага ўрада.

З падобнай сітуацыяй сутыкнулася і намесніца міністра сельскай гаспадаркі Надзея Каткавец. Ёй скасавалі запрашэнне на сельскагаспадарчую канферэнцыю «Зялёны тыдзень», што праходзіць у Берліне.

Прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных нервова назваў гэтыя рашэнні «абсурднымі».

### Наш адказ Рампею

Колькі б прадстаўнікі ўладаў не казалі, што санкцыі не будуць мець ніякага эфекту, але вымушаныя на іх рэагаваць. Прычым, на самым высокім узроўні.

Першым пра магчымыя санкцыі загаварыў сам Лукашэнка. Ён даручыў ураду падрыхтаваць захады ў адказ у выпадку ўвядзення супраць Беларусі якіх-небудзь санкцый. «У выпадку, калі хтонебудзь паспрабуе ўвесці супраць краіны эканамічныя або іншыя санкцыі, мы павінны неадкладна адрэагаваць, падрыхтаваць меры ў адказ, аж да самых жорсткіх, — падкрэсліў Лукашэнка. — І датычыць гэта павінна абсалютна ўсіх, хто паспрабуе ціснуць і блакаваць краіну, — асобная гэта будзе група краін ці нават Еўрасаюз у цэлым».

Таксама ён публічна абвінаваціў Польшчу і Расію ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту ў Беларусі.

Праблеме магчымых санкцый былі прысвечаныя амаль напалову выніковыя навіновыя перадачы на беларускіх тэлеканалах.

Тым часам Мінск на гэтым тыдні наведаў памочнік намесніка дзяржсакратара ЗША Томас Мелія. Ён паведаміў, што пытанне санкцый вырашыцца бліжэйшымі днямі. Прычым, будуць яны кропкавымі, скіраванымі на «адказных за палітычныя рэпрэсіі і задушэнне свабоды» ў Беларусі.

Колькі б лукашэнкаўцы ні пераконвалі ў тым, што санкцыі не маюць абсалютна ніякага на іх уплыву, але выглядае, што цяпер яны знаходзяцца ў разгубленасці, не ведаючы, якія крокі рабіць у такой сітуацыі. Яны самі сабе перарэзалі дарогу ў Еўропу.

**Зміцер Панкавец**

# Статкевіч спыніў галадоўку?

**Пра гэтага экс-кандыдата паранейшаму прыходзіць найменш інфармацыі.**

Адвакатка Таццяна Станкевіч мела са сваім падабаронным Мікалаем Статкевічам толькі адно спатканне — яшчэ ў мінулым месяцы.

Цяпер Станкевіч абівае парогі ізалятара КДБ, але да былога кіраўніка Згуртавання вайскоўцаў яе не пускаюць. Гэта спараджае мноства чутак.

Вядома, што адразу па затрыманні Статкевіч абвясціў галадоўку пратэсту. Ведаючы характар гэтага чалавека, можна меркаваць, што так проста гэтую галадоўку ён не спыніць. Вось і мяркуюць, што стан здароўя Статкевіча вельмі слабы, таму да яго і не дапускаюць абаронцу.

Зрэшты, з турмы ад кандыдата пачалі прыходзіць першыя лісты. Свайму старэнькаму бацьку ён даслаў віншаванне на дзень нараджэння, дзе просіць прабачэння, што не можа ў гэты дзень знаходзіцца побач з ім.

Таксама Мікалай даслаў два лісты сваёй сяброўцы Марыне Адамовіч. У адным з іх ён і піша, што «12 студзеня я мусіў спыніць галадоўку». Чаму мусіў, ніякіх тлумачэнняў няма. Марына турбуецца, што гэты ліст ён мог пісаць пад дыктоўку.

Каб пераканацца ў гэтых словах Статкевіча, блізкія просяць пусціць да яго адваката, але безвынікова. Увогуле, большасць арыштаваных апошні раз бачылі адвакатаў у снежні (апошні быў Сяргей Вазняк). Ніякіх лагічных тлумачэнняў, чаму не дапускаюцца адвакаты, не даецца. Між тым, такая сітуацыя падпадае пад парушэнне міжнародных канвенцый аб правах чалавека.

Невялікую інфармацыю можна чэрпаць толькі з лістоў, што прыходзяць да сваякоў. Дарэчы, многа хто адзначае, што напісаныя яны нібы пад капірку. Вязні кажуць, што з імі ўсё нармальна. Просяць разглядаць іх адсутнасць як камандзіроўку, што зацягнулася.

Яшчэ стала вядома, што Наста Палажанка сядзіць у адной камеры з Ірынай Халіп. А Аляксандр Фядута даслаў сваёй жонцы Марыне карыкатуру.

Не было лістоў толькі ад трох вязняў: Аляксандра Арастовіча, Змітра Бандарэнкі і Сяргея Марцалева.

**ЗП**




**Павел Вінаградаў (справа) у часе выбарчай кампаніі.**

# Нязломны Вінаградаў

**Тэлевізійнікі прывучылі гледачоў да кадраў, калі ўдзельнікі акцыі 19 снежня каюцца.**

Можна здагадацца, што такія прызнанні выбіваюць псіхалагічным ціскам.

На гэтым фоне заўважна кантраставаў допыт актывіста Паўла Вінаградава. Кадры з яго дэманстравалі тэлеканалы АНТ і БТ.

Вінаградаў менш за ўсё быў падобны да зломленага чалавека. На ўсе пытанні следчага адказваў з усмешкай і іроніяй. Кажа, маўляў, не пашанцавала яму пры такім кіраўніку нарадзіцца, вось і выпраўляе сітуацыю.

Або сказаў: «Мне здаецца, што пагром Дома ўрада пачалі апранутыя ў цывільнае міліцыянты, але доказаў гэтага ў мяне няма».

Паўлу Вінаградаву 22 гады. Ён мінчук, скончыў музычную школу. Доўгі час быў блізкі да «Еўрапейскай Беларусі». У 2008 годзе прайшоў праз крымінальную справу, якая атрымала назву «Працэс чатырнаццаці».

Тады Паша быў асуджаны на два гады «хіміі» без накіравання ў папраўчыя калоніі. Хлопец цалкам адбыў пакаранне, а не з'ехаў з краіны.

Падчас гэтай выбарчай кампаніі далучыўся да каманды Уладзіміра Някляева. Вінаградаў і ў дождж, і ў холад стаяў з пікетам ля крамы «Акіян», што ля плошчы Перамогі.

Сябра штаба Някляева Міхась Пашкевіч кажа, што «Вінаградаў як ніхто іншы якасна адпрацаваў кампанію». Яго ў вялізных навушніках можна было пастаянна бачыць за спінай паэта.

Цяпер жа хлопец дэманструе публічна сваю нязломную пазіцыю.

**ЗП**

# Крытычная залежнасць

Улада баіцца эканамічных санкцый да нафтахіміі і хіміі.

**Экспарт беларускіх тавараў***

| | Экспарт усіх беларускіх тавараў | Экспарт нафтапрадуктаў | Экспарт нафты | Экспарт калійных угнаенняў | Экспарт тавараў са сталі |
|---|---|---|---|---|---|
| Расія | 26 144 (34,8%) | 26 | — | 26 | 941 |
| Еўрасаюз (АГУЛАМ), у тым ліку: | 34 070 (45,3%) | 21 720 | 2 120 | 1 150 | 1 120 |
| Нідэрланды | 13 370 | 13 140 | — | — | 6 |
| Латвія | 4 800 | 3 260 | — | — | 230 |
| Польшча | 3 850 | 795 | 890 | 360 | 218 |
| Брытанія | 3 750 | 3 540 | — | — | 57 |
| Германія | 2 530 | 78 | 1 020 | — | 146 |
| Літва | 1 550 | 185 | 166 | 60 | 83 |
| Італія | 694 | 205 | — | 14 | 234 |
| Эстонія | 675 | 316 | 43 | 360 | — |

*Звесткі Нацыянальнага статыстычнага камітэта за 2007—2009. Цэны — у мільёнах даляраў.

20 студзеня Еўрапарламент прыняў рэзалюцыі наконт Беларусі. У ёй нечакана для многіх усё ж прагучылі словы наконт эканамічных санкцый супраць лукашэнкаўцаў. Еўрапарламент «заклікае Раду, Камісію высокіх прадстаўніцтваў перагледзець палітыку Еўрасаюза адносна Беларусі, у тым ліку прымяніць эканамічныя санкцыі і замарозіць усю макрафінансавую дапамогу».

Уяўную пагрозу з боку парламентарыяў Лукашэнка ўспрыняў як сапраўдную абразу: «Калі хто-небудзь паспрабуе ўвесці супраць краіны эканамічныя або іншыя санкцыі, мы павінны неадкладна адрэагаваць, падрыхтаваць меры ў адказ, аж да самых жорсткіх. І датычыць гэта павінна абсалютна ўсіх, асобная гэта будзе група краін ці нават Еўрасаюз у цэлым».

Нервовая рэакцыя кіраўніка дзяржавы сведчыць пра тое, што ўлада ўсё ж занепакоена. Але ці рэальна ацэньваецца небяспека санкцый? Наколькі беларуская эканоміка залежыць ад Еўрасаюза?

### Правал у імпарце, але не ў экспарце

За апошнія гады ўтварылася гіганцкае адмоўнае сальда беларускага замежнага гандлю — $18,6 мільярда за 2007—2009 гады. Імпарт расійскіх тавараў перавысіў экспарт на $31,3 млрд. З Еўрасаюзам сітуацыя адваротная: як відаць з табліцы, Беларусь няблага зарабляе на еўрапейцах. Удакладнім, што аналізаваліся статыстычныя падлікі Белстата за 2007—2009 гады, бо леташнія паказчыкі пакуль яшчэ не падсумаваныя.

Нафтапрадукты, нафта, калійныя ўгнаенні і сталь — вось асноўныя крыніцы прыбытку для беларускай эканомікі. Кожная з гэтых галінаў прынесла краіне з Еўрасаюза больш за мільярд даляраў за тры гады.

### Нафтавая залежнасць

Беларусь мае адразу дзве залежнасці, звязаныя з нафтай. 90% сыравіны паступае з Расіі, але яшчэ больш перапрацаваных нафтапрадуктаў — ажно 85%! — прадаецца ў Еўрасаюз. Эканоміка краіны трымаецца на абавязковасці і першай, і другой умоў.

Найбольш актыўныя купцы беларускіх нафтапрадуктаў — Нідэрланды, Вялікабрытанія і Латвія. На трох яны выплацілі Беларусі амаль $20 мільярдаў за тры гады. Зразумела, што латвійцы, эканоміка якіх шмат у чым трымаецца на беларускай прадукцыі, не змогуць зусім адмовіцца ад гандлю з Лукашэнкам. Але калі пастарацца, альтэрнатыву можна знайсці заўсёды. Найлепшы прыклад таму — венесуэльская нафта, якая разбавіла расійскую на нафтаперацоўчых заводах у Мазыры і Наваполацку.

### Калійная абыякавасць Расіі

Калійныя ўгнаенні — яшчэ адзін «мільярдны» артыкул прыбытку беларускай эканомікі, які зусім не цікавіць Расію. Там хапае і свайго калію. Усходнія суседзі купілі тавару ўсяго на $26 мільёнаў. Найбольш зацікаўленымі ў салігорскім тавары з'яўляюцца Эстонія і Польшча — «арганізатар рэвалюцыі», па меркаванні «Советской Белоруссии». Разам яны пералічылі ў беларускі бюджэт $720 мільёнаў.

### Сталёвы выбар

Прадукцыя Беларускага металургічнага завода не так моцна прывязаная да Захаду, але доля Еўропы зноў-такі пераважвае экспарт у Расію. $1,12 мільярда супраць $0,94 мільярда. Ратаванне беларускіх сталявараў у тым, што сярод асноўных пакупнікоў знаходзіцца Італія, кіраўніцтва якой мае больш лаяльнае стаўленне да Беларусі, і ўсё тая ж Латвія.

### Біць па слабых месцах

Самая адчувальная пазіцыя для магчымага эканамічнага ўдару Еўрасаюза — беларуская нафтаперапрацоўка. Год за годам прыбытак ад яе складае больш за трацінy ад агульнага экспарту краіны. Яшчэ адно балючае месца — беларуская хімічная прамысловасць (18% экспарту).

На машынабудаванне (16%) і харчовую прамысловасць Еўропа наўрад ці паўплывае. Тэхнікай, ежай і харчовай сыравінай цікавіцца перадусім Расія.

Іншыя ж галіны беларускай гаспадаркі не маюць значнага ўплыву на дзейнасць эканомікі краіны ў цэлым.

**Яўген Васількоў**

# У самы апошні раз?

Лукашэнка прызнаў, што крэдытаў больш не атрымае, і адразу ж пазычыў яшчэ $800 мільёнаў.

«Жыць трэба па сродках. Ніякага друкавання грошай, ніякіх пазык, хопіць, — заявіў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па пытаннях развіцця беларускай эканомікі. — З гэтым трэба развітацца. Гэта правільны падыход, ён не падлягае якойсьці спрэчцы», — падкрэсліў ён.

А дзе ж браць грошы, якія раней браліся з запазычванняў? Беларусь гатова прадаць да 25% акцый ААТ «Беларуськалій». «Мы прапанавалі, і гэта ўжо не сакрэт, «Беларуськалій». Мы сказалі, што больш за 25% мы не прадамо. Мы назвалі цану, якая сёння расце. Ахвотных за такую цану купіць няшмат, але яны ёсць. Хочуць — няхай купляюць, не — меншай цаны не будзе», — сказаў Лукашэнка. Ён пахваліўся, што сёння існуе «шалёны попыт на асобныя беларускія прадпрыемствы». «За гэта мы можам атрымаць $25—30 мільярдаў. А калі праямо гэтыя $30 мільярдаў, тады што прадаваць будзем?» — перажывае кіраўнік дзяржавы.

### А на наступны дзень...

Літаральна назаўтра Міністэрства фінансаў Беларусі пацвердзіла, што завяршыла размяшчэнне чарговай порцыі беларускіх еўрааблігацый. Яна выпушчана на суму $800 мільёнаў са стаўкай купона 8,95%. Пагашэнне адбудзецца ў 2018 годзе.

Гэта значыць, што праз сем гадоў беларусам прыйдзецца аддаць $1300 мільёнаў. У якасці вядучых арганізатараў выпуску еўрааблігацый выступіў пул еўрапейскіх банкаў у складзе BNP Paribas, Deutsche Bank, The Royal Bank of Scotland і Сбербанк Расіі. Беларусы разлічвалі атрымаць мільярд даляраў, але выйшла менеі.

Гэта ўжо трэція беларускія аблігацыі. Першыя размяшчаліся са стаўкай купона 8,75%. Другія — 8,25%. Праўда, тыя былі 5-гадовыя.

Даходнасць беларускіх аблігацый больш чым на 6% вышэйшая за даходнасць аблігацый Нямеччыны (2,2%), якія лічацца пунктам адліку. Для параўнання, аблігацыі Грэцыі, што балансавала на мяжы банкруцтва, у маі—чэрвені 2010 года размяшчаліся пад 8%.

### Хто прыйдзе ў Беларусь?

За апошнія пяць гадоў валавая замежная запазычанасць Беларусі дасягнула прыкладна $27 мільярдаў, або небяспечнай рысы 50% ад ВУП. На гора, пагаршэнне адносінаў з Захадам зрабіла немагчымым атрыманне танных крэдытаў ад МВФ.

Імаверна, Беларусь будзе здабываць грошы шляхам прыватызацыі дзяржаўных актываў. Інакш давялося б зацягнуць паясы ўсім. Але ў дадзенай палітычнай сітуацыі ў Беларусь прыйдуць толькі тыя купцы, якія будуць адчуваць сябе бяспечнымі. Тыповы заходні інвестар Беларусі цураецца: калі ў краіне могуць пасадзіць у турму сем кандыдатаў у прэзідэнты, то заўтра ў такой краіне могуць лёгкім рухам рукі забраць тваё 25% акцый назад.

**Сяргей Гезгала**

# Фініта

Кантракт на імпарт нафты

Беларускія НПЗ заключылі кантракты на імпарт нафты ў студзені на ўмовах, прапанаваных расійскімі кампаніямі, гэта значыць з прэміяй $ 6,3 за барэль, або $ 46 за тону. Пра гэта агенцтву «Інтэрфакс-Захад» у аўторак паведаміў удзельнік нафтавага рынку.

«У адпаведнасці з пратаколамі да кантрактаў, у студзені расейскія пастаўшчыкі будуць пастаўляць нафту на беларускія НПЗ з прэміяй да кошту ў памеры $ 6,3 за барэль, або $ 46 за тону», — сказаў суразмоўца.

На «Нафтане» і ў Мазыры чакаюць аднаўлення паставак нафты ад 26 студзеня.

Беларусь супраціўлялася да таго моманту, пакуль не скончыліся рэзервы нафты на заводах. Спачатку прадпрыемствы перавялі ў рэжым мінімальнай загрузкі. Аднак па стане на 25 студзеня сыравіны заставалася ўсяго на 2-3 дні. І беларуская дэлегацыя здалася.

Гэта непрыемны прэцэдэнт: Масква правяла варыянт кантракта, які пярэчыў усім папярэднім дамоўленасцям. Зараз Беларусь будзе вымушана аддаць 900 млн даляраў зверху той сумы, на якую разлічвала.

Танкеры з венесуэльскай нафтай прыбываюць па-ранейшаму рэдка. А абысціся без прыбыткаў ад працэсінгу расійскай нафты лукашэнкаўская эканоміка не можа.

Таму Мінск старанна маўчаў у часе сеанса ўзорна-паказальнага выкручвання рук, які расцягнуўся на месяц.

Прарыву ўдалося дасягнуць толькі ў часе візіту ў Маскву прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча 20 студзеня. Дэталі дамоўленасцяў

### Сцісла

• **А ваш заробак вырас за месяц на $55?** Белстат пераконвае краіну, што міфічны лозунг «сярэдні заробак — $500» стаў рэальнасцю. За снежань сярэдні беларус стаў зарабляць на $55 больш, і па выніках года ягоная зарплата дасягнула $530.

• **Дэфіцыт бюджэту — мільярд еўра.** Падлічаныя канчатковыя страты і даходы дзяржаўнага бюджэту Беларусі за 2010 год. Выявілася, што атрымалі на 4 трыльёны рублёў менш, чым патрацілі. Чыстыя страты ад леташняга пагаршэння паставак расійскай нафты склалі палову ад гэтай сумы.

• **Пагадненне з Расіяй пра АЭС падпішуць у першым квартале.** Будоўля будзе праводзіцца па расійскіх тэхналогіях. Пра гэта дамовіліся прэм'ер-міністры Беларусі і Расіі Міхаіл Мясніковіч і Уладзімір Пуцін. Усходнія суседзі гатовыя даць крэдыт на будаўніцтва атамнай станцыі.

• **У Беларусь прыйдуць літоўскія крамы Norfa?** Шосты багач Літвы Дайнюс Дандуліс шукае спецыялістаў-пасрэднікаў для пошуку аб'ектаў нерухомасці ў Беларусі пад новыя крамы. Ягоны бізнэс — трэцяя па велічыні сетка харчовых крамаў у Літве і чацвёртая ў Латвіі.

**ЯВ**

# 1500 чалавек падпісалі хадайніцтвы за вызваленне палітвязняў

БНФ пашырае збор са сталіцы на рэгіёны.

Партыя БНФ ініцыявала збор хадайніцтваў за вызваленне палітвязняў пад падпіску пра нявыезд. Яно мае быць перададзенае ў пракуратуру.

Збор подпісаў пайшоў нечакана лёгка. Толькі ў Мінску сабрана больш за 1500 хадайніцтваў. Збор хадайніцтваў працягваецца на сядзібе БНФ на вуліцы Машэрава, 8 (былая Варвашэні).

Партыя БНФ вырашыла пашырыць збор і на іншыя гарады Беларусі. У рэгіёнах гэта можна зрабіць, скантактаваўшыся з наступнымі асобамі.

### Брэсцкая вобласць

Брэст: Клімус Віктар (029) 227-52-12
Баранавічы: Чарнавус Мікалай (029) 608-37-47
Пінск: Рамановіч Аляксандр (029) 939-41-19
Бяроза: Сахаруша Анатоль (029) 223-40-84
Івацэвічы: Дайлід Павел (029) 522-82-30
Камянец: Дземянчук Аляксандр (029) 524-43-97
Белаазерск: Траццяк Зміцер (029) 684-97-41; (017) 204-34-99
Драгічын: Талкавец Андрэй (029) 188-16-66
Кобрын: Страчук Алесь (033) 608-44-46

### Віцебская вобласць

Віцебск: Кузняцоў Аляксандр (044) 713-22-00
Наваполацк: Кунцэвіч Уладзімір (029) 657-77-90
Полацк: Сом Лера (029) 510-91-06
Орша: Шутаў Аляксандр (029) 715-45-42, (029) 944-33-90
Гарадок: Аўтухоў Леанід (029) 380-13-75

### Гродзенская вобласць

Гродна: Губарэвіч Максім (029) 784-40-22
Ліда: Суднік Станіслаў (029) 788-77-28
Слонім: Шэга Іван (044) 793-10-92
Смаргонь: Дзергачоў Аляксандр (029) 336-20-62
Зэльва: Скрабутан Яўген (029) 867-32-27
Бярозаўка: Трафімчык Сяргей (029) 974-24-00

### Гомельская вобласць

Гомель: Сувораў Яўген (029) 399-45-43
Рэчыца: Пуціцкі Валер (029) 351-79-78
Светлагорск: Болбас Вадзім (029) 738-91-02

### Мінская вобласць

Маладзечна: Цішко Валянцін (025) 975-18-19
Вілейка: Сюдак Аляксей (029) 870-32-23
Лагойск: Шэвель Дзмітрый (029) 665-59-18

### Магілёўская вобласць

Магілёў: Салаўёў Зміцер (029) 691-59-63
Бабруйск: Лацінскі Сяргей 029) 120-66-53
Бялынічы: Вырвіч Барыс (029) 913-61-25
Горкі: Будная Галіна (033) 628-32-99
Хоцімск: Каранкевіч Валер (029) 117-37-64
Касцюковічы: Малахаў Мікалай (02245) 55-186
Чэрыкаў: Панізоўцаў Сямён (029) 660-39-56

**Алесь Пілецкі**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Не за Плошчу, а за пропускі.

**У новым Кодэксе аб адукацыі не прадугледжана адлічэнне студэнтаў па палітычных матывах. Пра гэта заявіў новы міністр адукацыі Сяргей Маскевіч (на фота). За ўдзел у вулічных акцыях студэнтам пагражае, як максімум, вымова ці папярэджанне. Але міністр дадаў: «Але за пропускі заняткаў яны могуць быць адлічаныя».**

## ля камедыя

заключаны на ўмовах Расіі

Мясніковіча — Пуціна не агучваліся. Але з наяўнай інфармацыі можна было меркаваць, што паралельна з аднаўленнем паставак нафты Масква дабілася згоды Мінска на пабудову ў Беларусі АЭС па расійскай тэхналогіі. Гэты праект узмацніць залежнасць беларускай энергетыкі ад Расіі.

Візіт у Маскву быў першым замежным візітам Міхаіла Мясніковіча. Мясніковіч прывёз з Масквы абяцанне расіян, што Беларусь атрымае субсідыі ў аб'ёме 4,124 млрд даляраў за кошт бязмытных паставак нафты. Расія таксама пацвердзіла пра сваю гатоўнасць крэдытаваць беларускую АЭС.

Дзеля чаго гэта Расіі? Тут існуе некалькі варыянтаў. Першы, што наша ўсходняя суседка ўзяла на ўзбраенне тактыку самога Лукашэнкі: шмат абяцаць і мала з гэтага выконваць. Пакуль беларускі бок не будзе рабіць сапраўдныя саступкі для Расіі.

Другая версія, што новымі грашовымі ўліваннямі ў беларускую эканоміку Расія хоча адцягнуць нашу краіну ад сферы ўплыву Захаду. А ўжо потым у адзіноце вырашыць пытанне з Лукашэнкам.

Што не ўсё гладка ў беларуска-расійскіх дачыненнях гаворыць тое, што не спыняюцца крытычныя ў дачыненні да Лукашэнкі рэпартажы па расійскіх тэлеканалах.

Напрыклад, НТВ у лёгкай форме растлумачыла, што па-беларуску значыць «ШОС» («штоб он сдох»). Выйшаў ролік і ў праграме «Весті неделі». Цікава, што гэтыя рэпартажы праваронiла цэнзура.

**Сяргей Гезгала**

## «Советская Белоруссія» апублікавала папярэджанне ўсім сучасным КГБістам

Гісторыя кар'еры і падзення кіраўніка МГБ-НКВД Лаўрэнція Цанавы.

Гісторык Віталь Скалабан апублікаваў у галоўнай дзяржаўнай газеце дакументы пра сумны фінал кіраўніка МГБ-НКВД Беларусі Лаўрэнція Цанавы.

Цанава паламаў сотні лёсаў, выкінуў у сметніцу мноства слёзных прашэнняў ад ахвяраў карнай сістэмы, адзначае даследчык. Але ў канцы жыцця яму самому давялося пісаць прыніжальныя просьбы аб памілаванні.

У 1951 годзе Цанава быў пераведзены ў Маскву на падвышэнне, а праз год звольнены ў запас. Праз месяц пасля смерці Сталіна Цанаву арыштавалі. Ён даў паказанні пра свой удзел у палітычным забойстве акцёра Саламона Міхоэлса, арганізаваным у Мінску спецслужбамі па загадзе Сталіна і замаскіраваным пад няшчасны выпадак. Акурат на Цанаву яго і вырашылі зваліць.

Спачатку Цанава пісаў слёзніцы Берыю, кляўся ў асабістай вернасці: «...За выкананне Вашых указанняў не пашкадую сябе».

Калі пасадзілі Берыю, Цанава пачынае пісаць Варашылаву, аплёўвае Берыю. Крывавы самадур, які меў неабмежаваную ўладу ў Беларусі, прыніжана называе сябе «хворым старым», абяцае «ногі цалаваць». Урэшце выдумляе міфічнае, аднаму яму вядомае радовішча нафты і вугалю на радзіме, у Грузіі, якое абяцае паказаць... Цанаву не вызвалілі, ён памёр у турме пры нявысветленых абставінах.

Цалкам артыкул Віталя Скалабана «Слёзніцы Цанавы» можна пачытаць на сайце «СБ» — sb.by.

У наш час яно чытаецца як папярэджанне ўсім цяперашнім нашчадкам Цанавы.

**Сяргей Мікулевіч**

## АНТ: «Мы б даўно на роўных кантактавалі з Еўропай, каб не вапяшчыя рожы»

У лукашэнкаўскіх СМІ працягваецца кампанія паклёпу.

Вечарам у панядзелак на тэлеканале АНТ у эфір з'явіўся прапагандысцкі фільм «Як ёсць: Тэхналогія пераваротаў». Яе аўтар — журналіст тэлеканала Аляксей Міхальчанка.

У перадачы найперш гаворыцца, што з Захаду нам ідзе нянавісць да ўсіх і да ўсяго. І пашыраць гэтую нянавісць у краіне ўзяліся мясцовыя апазіцыянеры. А хто іх падтрымлівае? Захад. У прыватнасці, ЗША журналіст назваў «зборышчам бежанцаў».

І пайшло: «Някляеў як паэт даўно выдахся» (відаць, Міхальчанка яшчэ і літаратурны крытык).

«Мы б даўно на роўных кантактавалі з Еўропай, каб не вапяшчыя рожы», — робіць выснову Міхальчанка, у кадры ў гэты час твар Міколы Статкевіча.

**Зміцер Панкавец**

**Адваротны эфект кампрамату на апазіцыю**

Першы канал беларускага радыё ў прайм-тайм пасля 19-й зачытвае «кампрамат» на апазіцыю, апублікаваны ў «СБ».

Пастаўлены мужчынскі барытон пад гераічна-трывожную музыку зачытвае «план Саннікава»: стачкамы, штабы, студэнцкі рух, вывучэнне настрояў працоўных, збор подпісаў за ўступленне ў Еўрасаюз…
Караценькае рэзюмэ, што гэта ўсё фікцыя і крамола, губляецца на фоне маштабнай карціны.

Такім нечаканым чынам краіна з радыёкропкі дазнаецца пра мэты апазіцыі. Не адзін чалавек задумаецца: дзе ж у тых мэтах крымінал? І за што сядзяць усе гэтыя людзі?

**Сяргей Мікулевіч**

## У Баранавічах —ператрус у сям'і, дзе дзіцяці дзевяць дзён

З раніцы 21 студзеня супрацоўнікі КДБ пагрукаліся ў хату баранавіцкіх актывістаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Малашчанкаў. Вобшук праводзілі супрацоўнікі Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці.

Жанчына меркавала, што іх візіт звязаны з тым, што яна на выбарах была даверанай асобай Віталя Рымашэўскага. Аднак спецслужбісты сказалі, што абшукваюць кватэру, бо муж Таццяны, Алег Малашчанка, паводле іх звестак, актыўнічаў 19 снежня на Плошчы.

Гэта быў адзін з, прынамсі, 120 вобшукаў, што прайшлі ў краіне за апошні месяц. Але не звычайны: 12 студзеня Таццяна Малашчанка нарадзіла трэцяе дзіця.

Малашчанкі — прадпрымальнікі. Трымаюць невялікую краму.

Алег Малашчанка ад савецкага часу служыў вайскоўцам у Расіі. Як толькі служба скончылася і ён выйшаў на пенсію, яны вярнуліся ў Беларусь.

Як паведаміла «НН» Таццяна Малашчанка, у яе забралі дзве тэчкі з паперамі аб дзейнасці БХД, 25 фотаздымкаў з сямейнага альбома, у тым ліку з Мілінкевічам і Северынцам, дыскі, друкаваную прадукцыю.

Малое Малашчанкаў мае ўсе шанцы вырасці героем, раз пачынае жыццё ў такіх экстрэмальных умовах.

**Сяргей Гезгала**

# Як дзяржаўныя газеты дураць чытачоў

### Рэтушаванне фотаў Лукашэнкі робіцца традыцыяй.





Асіплага і знерваванага, з вялізнымі мяшкамі пад вачыма Лукашэнку на нарадзе, прысвечанай заходнім санкцыям, можна было пабачыць на ўсіх дзяржаўных тэлеканалах за дзень да інаўгурацыі.

У часе інаўгурацыі Лукашэнка выглядаў спакайнейшым, але, нягледзячы на грым, мяшкі пад вачыма нікуды не зніклі, як і асіпласць.

Да выхаду суботніх нумароў дзяржаўных газет захоўвалася невялікая інтрыга — як будзе выглядаць Лукашэнка на першых палосах. Але цуду не адбылася. Чытачы «Советской Белоруссіі», «Звязды» ды іншых дзяржвыданняў убачылі на першых палосах адрэтушаваныя фотаздымкі — ніякіх мяшкоў пад вачыма, ніякіх зморшчын.

Можна здзіўляцца такой непаслядоўнасці — спачатку паказваць аднаго Лукашэнку па дзяржаўных тэлеканалах, а потым зусім іншага ў газетах, але робіцца відавочным тое, што рэтушаванне ягоных паслявыбарчых фотаздымкаў робіцца традыцыяй. Хоць гэта парушае нормы прафесійнай этыкі якасных СМІ.

Нешта падобнае мы ўжо назіралі ў 2006 годзе, калі пасля вялікага перапынку, якому папярэднічалі шматтысячныя акцыі апазіцыі, у тым ліку колькідзённае стаянне на Кастрычніцкай плошчы, Лукашэнка з'явіўся ў СМІ. Тады ў сюжэце тэлеканала Euronews, прысвечаным інаўгурацыі, гледачы ўбачылі стомленага, з мяшкамі пад вачыма, і нават трошкі схуднелага Лукашэнку, і зусім не такім ён быў выяўлены на фотаздымку ў «СБ» — ніякага намёку на стому і мяшкі пад вачыма.

**Сямён Печанко**

## Намесніцу міністра сельскай гаспадаркі не пусцілі ў Берлін

Пра гэта паведаміў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Андрэй Савіных.

Надзея Каткавец мусіла прадстаўляць краіну на сельскагаспадарчай выставе «Зялёны тыдзень-2011». Аднак у апошні момант запрашэнне беларускай чыноўніцы скасавалі.

Савіных лічыць гэта абсурдным і звязвае з увядзеннем візавых санкцый супраць беларускага кіраўніцтва.

Атрымаць каментар у Міністэрстве сельскай гаспадаркі нам не ўдалося. «Савіных паведаміў, у яго і пытайцеся», — адказалі там.

Каткавец займаецца ў міністэрстве замежнаэканамічнай дзейнасцю і мае рэпутацыю сумленнага менеджара.

Такімі сімвалічнымі жэстамі еўрапейцы імкнуцца паказаць беларускаму грамадству, што не ўсё ОК, як тое малюе лукашэнкаўская прапаганда.

**Зміцер Панкавец**

## ЦВК РФ засакрэціў разгромную для Лукашэнкі справаздачу аб прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі

Назіральнікі ад ЦВК Расеі, якія сачылі за ходам выбараў прэзідэнта Беларусі, пасля вяртання на радзіму не падзяліліся ўражаннямі аб убачаным, як гэта адбываецца звычайна. Уражанні гэтыя былі негатыўнымі, але Масква вырашыла прызнаць вынікі галасавання, піша ў панядзелак уплывовая расійская газета «Ведомості».

Расказ аб выніках назірання быў спачатку адкладзены да наступнага пасяджэння камісіі (на пасяджэнні 23 снежня Чураў патлумачыў, што яго намесніку Леаніду Іўлеву, што ўзначальваў дэлегацыю, трэба падрыхтавацца і абагульніць атрыманую інфармацыю), а потым перанесены на студзень. «Мы старанна вывучым усе акалічнасці», — тлумачыў Чураў.

Але прэзідэнту аб высновах назіральнікаў далажылі. Акрамя таго, як паведаміла ўрадавая «Российская газета», уражаннямі ад паездкі Іўлеў падзяліўся на закрытай сустрэчы з кіраўнікамі прэс-службаў выбаркамаў. Ён адзначыў, што ў Беларусі «выбаркамы знаходзяцца пад выразным кантролем органаў выканаўчай улады», а многія рэчы беларускім заканадаўствам наогул не рэгулююцца — напрыклад, працэдура падліку галасоў падрабязна не рэгламентаваная, бюлетэні пасля падліку складаюць у агульную кучу, а не раскладваюць асобнымі стосамі, як у Расіі.

На пытанне журналістаў, ці будзе публічны даклад па выніках місіі назірання, Іўлеў адказаў, што паспеў ужо ўсё забыцца.

**Сяргей Гезгала**

## У метро і на вуліцах з'яўляюцца партрэты вязняў




### «Свабоду Саннікаву», «Свабоду Статкевічу», «Свабоду Радзінай».

Партрэты Статкевіча, Някляева, Халіп, іншых палітвязняў з патрабаваннямі вызваліць іх — такія ўлёткі з'яўляюцца ў найбольш масавых месцах сталіцы. Нашы рэпарцёры бачылі іх на аўтобусных прыпынках, каля цэркваў. А таксама ў метро замест рэкламных аб'яў.

У іншых раёнах сталіцы з'явіліся графіці з расійскамоўнымі надпісамі «А я не буду маўчаць», «Мы супраць жорсткасці і ўзурпатара», «Свабоду палітзняволеным. Чэсныя выбары». Ізноў паяўляецца і даўні лозунг «Стоп Лука».

Нагадаем, што больш за трыццаць чалавек абвінавачаны ў справе арганізацыі масавых беспарадкаў 19 снежня. Сярод іх і чацвёра экс-кандыдатаў у прэзідэнты. Разам з тым тысячы людзей выклікаюць на размовы ў следчыя органы па гэтай крымінальнай справе.

А ў Мінску і Брэсце таксама з'явіліся плакаты «Мы цябе не выбіралі».

**КМ**

## Беразоўскі: Лукашэнка не чакаў, што свет надасць такое значэнне падзеям 19 снежня

### Алігарх імкнецца выгарадзіць Лукашэнку, зваліць віну на КДБ.

Апальны ў Расеі алігарх Барыс Беразоўскі абвінаваціў старшыню беларускага КДБ Вадзіма Зайцава і расійскія спецслужбы ў арганізацыі правакацыі 19 снежня ў Мінску.

Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю ўкраінскай газеце «Сегодня»: «Тое, што адбылося ў Беларусі, безумоўна, выгадна Расіі. І катэгарычна не выгадна ні Беларусі, ні Захаду. Расія атрымала неабмежаваны ўплыў у гэтай краіне і, па сутнасці, загнала беларускія ўлады ў кут. Я лічу, што беспарадкі пасля выбараў — гэта спецаперацыя расійскіх спецслужбаў. Вы ведаеце, што перад гэтым Лукашэнка тры гады вельмі паслядоўна рухаўся ў бок дэмакратычных пераўтварэнняў. Ажыццяўляў дэмакратычныя рэформы на беларускі лад. Але ў ноч пасля выбараў было перакрэслена ўсё, што рабілася тры гады. Трэба было выставіць ахову для кандыдатаў у прэзідэнты, якія прыйшлі на гэты мітынг. Спецслужбы Лукашэнкі павінны былі іх ахоўваць, а не біць па галаве».

А вось што думае Беразоўскі пра логіку мыслення Лукашэнкі: «У мяне такое ўражанне, што Лукашэнка сам не чакаў, што свет надасць такое значэнне таму, што адбылося 19 снежня. Я нават больш-менш уяўляю, хто гэта рабіў — яго ўласныя спецслужбы, якія давалі яму ілжывую інфармацыю пра падзеі, якія адбываліся на плошчы 19 снежня. І гэтыя супрацоўнікі — безумоўна, супрацоўнікі адначасова расейскіх спецслужбаў. І ў першую чаргу, гаворка ідзе аб старшыні КДБ Беларусі».

Беразоўскі, як лічыцца, мае адмысловыя сувязі з Лукашэнкам. Адвакат Зельцэр сцвярджаў, што ён прылятаў на суд над ім.

**СГ**

З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

## Яшчэ адзін невядомы эпізод Плошчы: як людзей збівалі пад касцёлам

### Хачу распавесці Вам адзін эпізод Крывавае нядзелі.

Пасля выцяснення з плошчы Незалежнасці мы, амаль не знаёмыя між сабой трыццаць (прыкладна) людзей, апынуліся ля Чырвонага касцёла. Я асабіста належу да грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі, што знаходзіцца ў Чырвоным касцёле. Хутка насупраць нас пашыхтаваўся АМАП.

Мы адступілі да самага касцёла. Дзверы былі замкнёныя. Стоячы на ганку, мы паспелі праспяваць «Магутны Божа». Пасля пачалі чытаць «Ойча наш», АМАП пачаў выцясняць, потым збіваць.

Мяне АМАПаўцы зацягнулі за шыхт і збілі даволі моцна, ужо каля другога ўваходу ў касцёл. Але не забралі, таму што аўтазака ў іх не было.

Нейкі час стаялі па розныя бакі ад уваходу: АМАПаўцы шыхтаваліся перад камандзірам, я вярнуўся ў прытомнасць, а потым сышоў...

Замкнёныя дзверы касцёла ў той вечар выклікалі аналогію з дзвярыма Дома ўрада.

Цяпер я атрымаў і дасылаю Вам фота гэтага эпізоду.

**Максім Буйніцкі, Мінск**



LEONID VARLAMOV, MMET.LIVEJOURNAL.COM

**АМОН блакаваў людзей на прыступках Чырвонага касцёла. За імгненне пачнецца збіццё.**

# 19 снежня магла паўтарыцца трагедыя на Нямізе

З пошты Рэдакцыі.

Добры дзень!

Я хацеў бы сказаць некалькі словаў пра падзеі 19 снежня. Я прысутнічаў на плошчы Незалежнасці. І ў момант, калі міліцыя рассекла дэманстрантаў на дзве часткі, я апынуўся ў той групе, якая бліжэйшая да Дома ўрада. Фактычна, мы апынуліся ў замкнёнай прасторы. Я хачу расказаць пра дзве рэчы.

Па-першае, чамусьці мала згадваюць пра ўжытыя міліцыяй спецсродкі.

І па-другое: натоўп людзей, адсечаны спецназам, пачаў прарывацца на саму плошчу з натуральным жаданнем вырвацца на волю са сваёй «посткі». Людзі (каля ста чалавек) пачалі ціснуць на ачапленне. Утварылася жорсткая цісканіна. Я апынуўся ў цэнтры яе. Каля мяне людзі пачалі падаць, бо пад намі акурат былі прыступкі, слізка. Нас пачалі таптаць тыя, хто быў за намі. Я ўпаў на нейкіх дзяўчат, заднія таптолі мяне. Людзі рэальна маглі загінуць.

Гэта было, можа, за якіх 3–5 метраў ад байцоў спецназу (мы былі не ў першых шэрагах).

На мой погляд, спецназаўцы разумелі, што адбываецца. Тым больш што мы дзіка крычалі, што пад нагамі — людзі. Але яны не разарвалі ачаплення. Загад трымаць лінію быў важнейшы за рызыку страціць людзей.

Але, мусіць, спрацаваў «інстынкт Нямігі». Самі ж людзі пачалі дзіка крычаць: «Душым сваіх жа!», «Назад!» і інш. І паступова хваля хлынула назад. Адным словам, так я нарадзіўся яшчэ раз.

Тады людзі пабеглі да іншага краю гэтай замкнёнай пляцоўкі, жадаючы выбегчы справа ад помніка Леніна, з надзеяй, што там няма ачаплення.

І вось тут я адчуў газ. Ніякага паху. Толькі сухасць у роце і носе, здаецца, што задыхаешся. Ад гэтага і ад таго, што знаходзішся «ў пастцы», — панічны страх. Ну, думаю, зараз як тых мышанят на макавым полі — пазбіраюць і раскладуць па паліцах... Ад гэтага магла зноў узнікнуць паніка.

Але калі я выбег на саму плошчу (ачаплення справа насамрэч не было), гэта ўсё мінула. Відаць, у цэнтры плошчы газу не было. Можа, таму пра гэта так мала пісалі.

Дай Бог, каб такое болей не паўтарылася і каб у людзей дадалося розуму пасля таго, што адбылося.

**Раман Асанчук, Мінск**




# Рэзалюцыя Еўрапейскага парламента па Беларусі

Еўрапейскі парламент,

— маючы на ўвазе папярэднюю рэзалюцыю Еўрапарламента адносна сітуацыі ў Беларусі, у прыватнасці рэзалюцыю ад 17 снежня 2009 г.,

— маючы на ўвазе Рашэнне Рады 2010/639/CFSP ад 25 кастрычніка 2010 г. адносна абмежаванняў у дачыненні да пэўных афіцыйных асобаў Беларусі працягнуць іх да 31 кастрычніка 2011 г.,

— маючы на ўвазе Рашэнне Рады замежных справаў ад 25 кастрычніка 2010 г.,

— маючы на ўвазе заявы Офіса дэмакратычных інстытуцыяў і правоў чалавека АБСЕ і Парламенцкай асамблеі АБСЕ «Аб папярэдніх высновах адносна прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі» ад 20 снежня 2010 г.,

— маючы на ўвазе Правіла 110 Рэгламенту,

**A.** У сувязі з тым, што Пражская дэкларацыя саміта Усходняга партнёрства зноў пацвердзіла, у тым ліку і адносна Беларусі, адданасць прынцыпам міжнароднага закону і асноўным каштоўнасцям, у іх ліку дэмакратыі, верхавенству закону і павазе да правоў чалавека і асноўных свабодаў,

**B.** У сувязі з тым, што Рада 25 кастрычніка 2010 г. «заклікала ўлады Беларусі забяспечыць правядзенне прэзідэнцкіх выбараў у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі і нормамі дэмакратычных выбараў АБСЕ і ААН,

**C.** У сувязі з тым, што Беларусь прыняла на сябе абавязанні ўлічыць рэкамендацыі АБСЕ і Офіса дэмакратычных інстытуцыяў і правоў чалавека адносна ўдасканальвання выбарчага кодэкса Беларусі з мэтай прывесці яго ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі дэмакратычных выбараў і кансультавацца адносна прапанаваных зменаў з АБСЕ; у сувязі з тым, што парламент Беларусі прыняў рэформу Выбарчага кодэкса без папярэдняй кансультацыі з АБСЕ,

**D.** У сувязі з тым, што Рада «зноў пацвердзіла сваю гатоўнасць пашыраць дачыненні з Беларуссю ў залежнасці ад развіцця Беларусі ў кірунку да дэмакратыі, павагі да правоў чалавека і верхавенства закону, а таксама гатоўнасць дапамагаць Беларусі ў дасягненні гэтых мэтаў»,

**E.** У сувязі з тым, што Рада пасля ацэнкі прагрэсу ў Беларусі вырашыла працягнуць абмежавальныя захады супраць пэўных афіцыйных асобаў Беларусі, але прыпыніць ужыванне візавых санкцыяў на паездкі ў ЕС да 31 кастрычніка 2011 г.,

**F.** У сувязі з тым, што ў адпаведнасці з заявамі ПА АБСЕ і Офіса дэмакратыі і правоў чалавека АБСЕ «Аб папярэдніх высновах адносна прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі» пэўны прагрэс можна адзначыць у часе выбарчага працэсу, але ён азмрочаны сур'ёзнымі парушэннямі ў часе галасавання і гвалтам у дзень выбараў 19 снежня,

**G.** У сувязі з тым, што больш за 700 чалавек былі зняволеныя за іх удзел у дэманстрацыі 19 снежня ў Мінску, большыня з іх была вызваленая пасля адбывання кароткіх тэрмінаў зняволення паводле адміністрацыйных прысудаў, тым часам як 24 апазіцыйныя журналісты і актывісты, у тым ліку 6 кандыдатаў у прэзідэнты, былі абвінавачаныя «ў арганізацыі масавых беспарадкаў» і ім пагражае да 15 гадоў зняволення, а яшчэ 14 чалавек могуць быць асуджаныя такім жа чынам неўзабаве,

**H.** У сувязі з тым, што разгон міліцыяй дэманстрацыі 19 снежня 2010 г. і далейшыя захады праваахоўных органаў супраць дэмакратычнай апазіцыі, свабоды медыяў і грамадзянскай супольнасці былі асуджаныя прэзідэнтам Еўрапарламента, высокімі прадстаўнікамі ЕС і Генеральным сакратаром ААН,

**I.** У сувязі з тым, што адвакаты, якія прадстаўляюць дэмакратычных актывістаў, апазіцыянераў і іх родных, не дапускаюцца да зняволеных,

**1. Прызнае, што адпаведна з папярэднімі высновамі ПА АБСЕ і Офіса дэмакратычных інстытуцыяў і правоў чалавека аб тым, што прэзідэнцкія выбары 19 снежня 2010 не адпавядалі міжнародным стандартам** свабодных, справядлівых і празрыстых выбараў; прызнае, што ў гэтым галасаванні была страчаная чарговая магчымасць для дэмакратызацыі Беларусі, і заклікае, у сувязі са шматлікімі сур'ёзнымі парушэннямі, адзначанымі АБСЕ, да новых выбараў, якія б былі праведзеныя адпаведна свабоднымі і дэмакратычным нормам і стандартам АБСЕ;

**2. Асуджае ўжыванне супраць пратэстоўцаў грубай сілы міліцыяй і КДБ у дзень выбараў,** асабліва жорсткі напад на У. Някляева, парушэнне правоў на свабоду сходаў і выказвання, а таксама правоў чалавека, і выказвае заклапочанасць спробамі ўладаў Беларусі ўзяць пад апеку Даніла Саннікава, 3-гадовага сына кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і журналісткі Ірыны Халіп, якія застаюцца зняволеныя ад 19 снежня; асаблівую занепакоенасць выказвае станам здароўя Мікалая Статкевіча, які ўжо месяц трымае галадоўку;

**3. Рэзка асуджае арышт і затрыманні мірных дэманстрантаў і большыні кандыдатаў у прэзідэнты** (напрыклад, Уладзіміра Някляева, Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Аляксея Міхалевіча), лідараў дэмакратычнай апазіцыі (напрыклад, Паўла Севярынца, Анатоля Лябедзькі) і вялікай колькасці грамадзянскіх актывістаў, журналістаў, настаўнікаў і студэнтаў, якім пагражаюць прысуды да 15 гадоў зняволення; заклікае да незалежнага і аб'ектыўнага расследавання пад эгідай АБСЕ; заклікае да неадкладнага спынення палітычна матываваных прысудаў;

**4. Асуджае рэпрэсіі і заклікае ўлады Беларусі неадкладна спыніць усе формы гвалту,** пераследу і запалохвання актывістаў грамадзянскай супольнасці, рэйды,ператрусы і канфіскацыю матэрыялаў у прыватных памяшканнях, прадстаўніцтвах незалежных СМІ і офісах грамадскіх арганізацыяў, а таксама выключэнні з універсітэтаў і звальненні з працы;

**5. Патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх зняволеных у дзень выбараў і пасля выбараў,** у тым ліку і зняволеных, прызнаных «Міжнароднай амністыяй» вязнямі сумлення; заклікае ўлады Беларусі забяспечыць неабмежаваны доступ сваякоў, юрыстаў і медыкаў да зняволеных;

**6. Выказвае шкадаванне адносна рашэння ўладаў Беларусі закрыць офіс АБСЕ ў Беларусі** і заклікае ўлады Беларусі адмяніць гэтае рашэнне;

**7. Асуджае блакаду ў інтэрнэце шэрагу буйных інтэрнэт-старонак, у тым ліку сацыяльных сетак і апазіцыйных вэб-сайтаў у дзень выбараў у Беларусі;** падкрэслівае, што цяперашні закон аб СМІ ў Беларусі не адпавядае міжнародным стандартам, і таму заклікае беларускія ўлады перагледзець і змяніць яго;

**8. Заклікае Раду, Камісію і высокіх прадстаўнікоў ЕС перагледзець палітыку ЕС адносна Беларусі, у тым ліку ўжыць эканамічныя санкцыі і замарозіць усю макрафінансавую дапамогу** праз крэдыты МВФ, аперацыі Еўрапейскага інвестыцыйнага банка і Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця; падкрэслівае, што арыентацыя на еўрапейскую палітыку добрасуседства і нацыянальнай дапамогі для Беларусі мусіць быць перанакіраваная і праводзіцца ў сферы падтрымкі грамадзянскай супольнасці; нагадвае пра істотнасць эфектыўнага выкарыстання еўрапейскай ініцыятывы ў справе дэмакратыі і правоў чалавека;

**9. Заклікае Камісію падтрымаць усімі фінансавымі і палітычнымі сродкамі высілкі грамадзянскай супольнасці, незалежных СМІ** (у тым ліку тэлеканал «Белсат», Еўрапейскае радыё для Беларусі, Радыё Рацыя і іншых) і недзяржаўных арганізацыяў у Беларусі, якія развіваюць дэмакратыю і супрацьстаяць рэжыму; бачыць неабходнасць актывізаваць і заахвочваць сувязі беларускіх недзяржаўных арганізацыяў з міжнароднай супольнасцю; разам з тым заклікае Камісію прыпыніць цяперашняе супрацоўніцтва і адклікаць дапамогу дзяржаўным СМІ ў Беларусі; адначасова з гэтым Камісія мусіць прафінансаваць перавыданне і распаўсюд кніг Уладзіміра Някляева, сканфіскаваных і знішчаных беларускімі ўладамі;

**10. Заклікае Еўрапейскую Камісію развіваць механізм рэгістрацыі недзяржаўных арганізацыяў, якім адмоўлена ў рэгістрацыі ў Беларусі з палітычных прычынаў,** каб даць ім магчымасць карыстацца праграмамі ЕС;

**11. Заклікае Камісію працягваць і павялічваць фінансавую дапамогу Еўрапейскаму гуманітарнаму ўніверсітэту (ЕГУ)**, які месціцца ў Вільні (Літва), павялічыць колькасць стыпендыяў для беларускіх студэнтаў, рэпрэсаваных за іх грамадзянскую актыўнасць і выключаных з універсітэтаў, і зрабіць унёсак у канферэнцыю донараў «Салідарнасць з Беларуссю», запланаваную на 2.02.2011, і наступную канферэнцыю ў Вільні 3–4.02.2011;

**12. Заклікае Раду, Камісію і Вярхоўную прадстаўніцу ЕС неадкладна аднавіць візавыя забароны ў дачыненні да кіраўнікоў Беларусі і пашырыць іх на дзяржаўных чыноўнікаў, а таксама супрацоўнікаў праваахоўных органаў і сілаў бяспекі, якія могуць быць адказнымі за парушэнні ў часе галасавання і паслявыбарчыя жорсткія рэпрэсіі і арышты прадстаўнікоў апазіцыі**, а таксама замарозіць іх банкаўскія активы; звяртае ўвагу, што санкцыі павінны заставацца ў сіле як найменей да вызвалення ўсіх палітычных зняволеных і поўнага зняцця з іх абвінавачанняў; вітае добры прыклад урада Польшчы, які ўвёў у дзеянне візавыя абмежаванні для прадстаўнікоў рэжыму і разам з тым палегчыў паездкі ў ЕС для беларускіх грамадзянаў;

**13. Заклікае Раду разгледзець магчымасць прыпынення ўдзелу Беларусі ва Усходнім партнёрстве** на саміце Усходняга партнёрства ў Будапешце, калі да гэтага не будзе прымальнага тлумачэння і значнага паляпшэння сітуацыі ў Беларусі, пры гэтым прыпыненне не распаўсюджваецца на няўрадавыя арганізацыі і грамадзянскую супольнасць;

**14. Заклікае Камісію і Раду актывізаваць перамовы ў справе пагаднення аб рэадмісіі для спрашчэння візавага рэжыму,** у тым ліку і даступных візавых збораў у мэтах спрашчэння кантактаў паміж людзьмі;

**15. Выказвае спадзяванне, што краіны-сябры ЕС не аслабяць дзеянні Еўрасаюза двухбаковымі кантактамі з беларускім рэжымам,** што зменшыла б аўтарытэт і эфектыўнасць еўрапейскай замежнай палітыкі;

**16. Выказвае меркаванне, што спартовыя мерапрыемствы, такія як чэмпіянат свету па хакеі ў 2014, не могуць быць праведзеныя ў Беларусі, пакуль у гэтай краіне будуць заставацца палітвязні;**

**17. Выказвае шкадаванне ў сувязі з крокамі Расійскай Федэрацыі**, якая прызнала выбары і расцаніла рэпрэсіі як «унутраную справу», рэкамендуе Еўракамісіі распачаць дыялог, кансультацыі і палітычную каардынацыю з суседзямі Беларусі, якія не ўваходзяць у ЕС, але якія традыцыйна маюць асаблівыя адносіны з гэтай краінай і адначасна з'яўляюцца партнёрамі ЕС — а менавіта Расіяй і Украінай, — каб максімальна павысіць эфектыўнасць палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі, а таксама супрацоўнічаць у справе належнага ўраўнаважання рэакцыі на недахоп дэмакратыі і парушэнні правоў чалавека ў Беларусі з неабходнасцю пазбегнуць яе міжнароднай ізаляцыі.

**18. Даручае старшыні накіраваць гэтую рэзалюцыю** ў Раду Еўропы, Еўрапейскую Камісію, Вярхоўнаму прадстаўніку, дзяржавам-сябрам ЕС, прэзідэнту, парламенту і ўраду Беларусі, Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы і АБСЕ.

# Інаўгурацыя пры пустых вуліцах і ў прысутнасці Колі

Працяг са старонкі 1.

## Пусты картэж

Вялікім дасягненнем БТ назвала здымкі руху картэжу Лукашэнкі, які рухаўся ад Драздоў да Кастрычніцкай плошчы. Хаця нічога ўнікальнага тут няма, так здымаюць шмат гадоў велагонкі.

Найпершае пытанне, якое ўзнікла па праглядзе трансляцыі: ці сапраўды Лукашэнка ехаў у гэтым самым картэжы? Да гэтага было некалькі трэніровак відэазапісу. Ёсць меркаванні, што ў эфір пусцілі якраз той, што рабіўся напярэдадні. Гледачам быў паказаны пусты картэж у суправаджэнні ахоўнікаў (нечым падобных да дзембеляў) на матацыклах.

Справа ў тым, што 21 студзеня падаў сняжок, а ў трансляцыі яго не было. Заўважна было, наколькі пустыя былі вуліцы Мінска пры руху аўтамабіля кіраўніка краіны.

На Кастрычніцкай плошчы таксама не было нікога з 79%, якія б віталі свайго абранага лідара. Вялізная плошча была ачэпленая, людзей на яе не дапускалі.

Спрычыніцца да падзеі маглі толькі запрошаныя ўнутр палаца, а таксама гледачы тэлебачання (інаўгурацыя транслявалася па ўсіх тэлеканалах).

## Не ў лепшай форме

Лукашэнка з'явіўся на ганаровай дарожцы разам з сынам Колем. Яны падняліся ў палац, ім салютавала варта. Але ў залу Лукашэнка ўвайшоў адзін.

Госці мерапрыемства разам усталі, калі ў залу ўвайшоў лідар. Ідучы да сцэны, дзе быў інсцэніраваны ягоны рабочы кабінет, ён пахлопаў па плячы нейкага патлатага мужчыну.

У залу быў унесены прэзідэнцкі штандар. Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, пафарбаваная ў бландзінку, абвесціла афіцыйныя вынікі выбараў.

Потым Лукашэнка прынёс прысягу. Па-беларуску. Падчас выканання дзяржаўнага гімна вусны Лукашэнкі не варушыліся. Увогуле, склалася ўражанне, што гімн спяваў толькі кіраўнік Адміністрацыі Уладзімір Макей. А вось Шэйман, што стаяў за ягонай спінай, маўчаў як рыба.

## Атэіст і Філарэт

Пасля гэтага слова ўзяў спікер савета рэспублікі Анатоль Рубінаў. Ён, напэўна, быў адзіным з нямногіх, хто ў зале выпраменьваў аптымізм. «Вы былі выбраны на гэтую пасаду ў выніку чэсных, дэмакратычных, свабодных выбараў, — пранікнёна сказаў ён. — Ніколі яшчэ Беларусь не развівалася так імкліва, як у гады Вашага прэзідэнцтва».

Цікава, што з вуснаў Рубінава зляцела фраза: «Дасць Бог». Хоць Рубінаў вядомы сваімі атэістычнымі поглядамі. Яшчэ калі Анатоль Рубінаў быў першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, ён надрукаваў скандальны артыкул у «СБ» «Навука і грамадства», дзе пісаў пра неабходнасць антырэлігійнай прапаганды, а таксама змяншэння ролі царквы ў грамадстве. Патрыяршы экзарх тады публічна быў вымушаны адказваць акадэміку Рубінаву. Сімвалічна, што на інаўгурацыі другім выступоўцам быў якраз мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.

Ён назваў Аляксандра Лукашэнку «досточтімым». Саноўнік сказаў, што з Лукашэнкам звязваюць свае надзеі грамадзяне Беларусі.

На праваслаўнае Раство да Філарэта звяртаўся кандыдат у прэзідэнты ад Партыі БНФ Рыгор Кастусёў, каб ён заступіўся за вязняў «амерыканкі». Аднак у прамове на гэта не было і намёку.

## Рэкордна кароткая

Прамова Лукашэнкі аказалася рэкордна кароткай. Яна не доўжылася і пятнаццаці хвілін. Магчыма, гэта было звязана з не лепшым самаадчуваннем.

Але гэта не зашкодзіла Лукашэнку ў сваёй прамове заявіць, што, як ён даведаўся ўчора, «еўрапейцы ўжо не маюць прэтэнзій да нашых выбараў». Што ён меў на ўвазе, калі за дзень да інаўгурацыі Еўрапарламент прыняў самую крытычную рэзалюцыю, у якой запатрабаваў перавыбараў.

Кіраўнік краіны зазначыў, што ніякія «Майданы і Плошчы нашаму грамадству не пагражаюць».

Лукашэнка паўтарыў свой традыцыйны скетч, што ў сярэдзіне 90-х «свядомыя дэмакраты давялі краіну да ручкі». «Мы не далі разваліць краіну... Дзякуючы нашай палітыцы ў краіне няма алігархаў і беспрацоўя. Мы стараемся працаваць яшчэ лепш», — паведаміў ён.

Прагучала падзяка ў бок урада Сідорскага за праробленую працу, аднак сказаў, што новы час патрабуе новых падыходаў.

Пасля кароткай прамовы Лукашэнкі ў Палацы Рэспублікі пачаўся музычны канцэрт. Лукашэнка слухаў яго са сваёй ложы, дзе сядзеў разам з Колем, пахмурны.

## Пяткевіч і Зімоўскі ў зале

Цікава, што камера колькі разоў падчас інаўгурацыі спынялася на тварах адстаўных чыноўнікаў. Разам сядзелі Сяргей Сідорскі і Наталля Пяткевіч. Апошняя была зусім не падобная на сябе. Жоўта-бледная, сціснутыя вусны.

Іншай парай сядзелі Аляксандр Зімоўскі і Зянон Ломаць.



А вось замежныя госці інаўгурацыю праігнаравалі. Паслы краінаў Еўрасаюза выказалі сваё адназначнае стаўленне да падзеі, калі накіраваліся з візітам у віленскі ЕГУ. Там яны зазначылі: «Лукашэнка ведае, што рабіць, каб не застацца ў ізаляцыі».

Не было на ўрачыстасцях нават пасла Украіны. Там растлумачылі, што інаўгурацыя «супала са святам — Днём сабornасці».

Затое быў лідар расійскіх камуністаў Генадзь Зюганаў. Ён сядзеў побач з Уладзімірам Макеем. Трапіў у залу і адыёзны расійскі журналіст-шавініст Аляксандр Праханаў.

## Праханаў: «Напружанасць і панурасць»

Менавіта інтэрв'ю Праханава даюць важныя штрышкі аб інаўгурацыі і атмасферы, у якой яна праходзіла.

Рэдактар газеты «Завтра» па вяртанні з Мінска даў каментар радыёстанцыі «Эхо Москвы». На пытанне вядучай радыёстанцыі, чаму ў Лукашэнкі быў такі «вельмі напружаны, ахрыплы нейкі» голас, Праханаў адказаў з інтрыгай: «Можа быць, крычаў на падначаленых». Потым Праханаў нечакана паведаміў, што Лукашэнка быў хворы, што ў яго ангіна, таму і адмянілі прыём.




**Адстаўных чыноўнікаў пасадзілі між удзельніцамі конкурсу прыгажосці і дзеячамі эстрады. Звяртала ўвагу, што Наталля Пяткевіч была да сябе не падобная.**

«Адсутнасць вось гэтага прыёму, мне здаецца, гаварыла не толькі аб хваробе прэзідэнта, а пра тое, што вырашылі ўсё-ткі не адзначаць пышна гэта свята ў момант, калі адбываюцца следчыя мерапрыемствы, калі ў турмах сядзяць прэтэндэнты на трон прэзідэнцкі, калі Захад, увогуле, ігнаруе Беларусь, пачынаецца новы ранг ціску. Адсюль і ўзнікла адчуванне вось такой унутранай стрыманасці, нават нейкай супярэчнасці. З аднаго боку, урачыстасць і пафас, а з іншага боку, некаторая напружанасць і такая панурасць», — зазначыў Праханаў.

Цікава, што, паводле інфармацыі Праханава, арыштаваныя вялікіх тэрмінаў зняволення не атрымаюць. У той жа час іх будуць спрабаваць адправіць за межы краіны.

**Зміцер Панкавец**



**З нагоды інаўгурацыі вечарам на Кастрычніцкай адбылася «Акцыя маўчання».**



**У Брэсце апазіцыянеры на рынку паставілі і каранавалі пудзіла.**

### Затрымалі за смех з інаўгурацыі

У дзень інаўгурацыі здарыўся анекдатычны выпадак. На Кастрычніцкай плошчы затрымалі юнака з Мінска Андрэя Філіпчыка. Ягоная віна заключалася ў тым, што ён смяяўся, гледзячы на вялікі экран, дзе транслявалася інаўгурацыя Лукашэнкі.

Яго адвезлі ў суд Цэнтральнага раёна, дзе аштрафавалі на 15 базавых велічынь.

Філіпчык проста меў намер паглядзець інаўгурацыю на плошчы, але міліцыя пачала яго выганяць адтуль. Хлопец пайшоў у бок ГУМа, дзе яго сустрэлі людзі ў цывільным. Завялі ў пастарунак, а ўжо адтуль — у суд.

У той самы дзень у Брэсце актывісты дэмакратычнай супольнасці «каранавалі» пудзіла ў рамках акцыі «21 студзеня — Міжнародны дзень самазванца».

Акцыя праходзіла ў жывым месцы, ля «Цэнтральнага рынка». Да пудзіла была прыстаўлена хакейная клюшка, плакат з надпісам, які паведамляў гараджанам, што сёння «Міжнародны дзень самазванца», каля ботаў надпісы «лізаць тут», галаву ўпрыгожвала карона з дэталяў шапкі скамароха ды сучаснага дзяржаўнага герба краіны. На працягу 20 хвілінаў жыхароў Брэста вітала «каранаванае» пудзіла.

З нагоды інаўгурацыі вечарам на Кастрычніцкай адбылася «Акцыя маўчання», ідэя якой стыхійна ўзнікла ў сацыяльных сетках.

Людзей прыйшло нямнога. Але і тых хутка зацягнулі ў міліцэйскія аўтобусы. Агулам затрымалі восем чалавек. Сярод іх быў Яраслаў Ліхачэўскі, які прыйшоў на Кастрычніцкую на мыліцах. Праўда, потым усіх адпусцілі.

**ЗП**

# Склад боепрыпасаў, паказаны па БТ, — вялікая ліпа?

Журналісты «Нашай Нівы» знайшлі «гараж з боепрыпасамі».

Беларускае тэлебачанне даўно вядомае сваімі містыфікацыямі.

Асабліва рэжысёры і аператары БТ шчыруюць у перыяды палітычных кампаній у краіне, калі трэба чарговы раз запэўніць беларусаў у нядобрых намерах апазіцыі і паказаць, што толькі дзякуючы моцнай уладзе Лукашэнкі сінявокая рэспубліка можа ахоўваць сон сваіх грамадзян.

Прэзідэнцкая кампанія 2010 года не стала выключэннем. З той розніцай, што шчыраваць рэжысёры БТ пачалі ўжо пасля выбараў, спрабуючы апраўдаць жорсткі разгон мірнай дэманстрацыі.

9 студзеня, у нядзельны прайм-тайм, Першы нацыянальны тэлеканал паказаў чарговы шэдэўр — фільм «Плошча. Жалезам па шкле». У ім расказвалася, што альтэрнатыўныя Лукашэнку кандыдаты насамрэч не збіраліся перамагаць на выбарах. Паводле рэжысёраў БТ, мэта ў апазіцыі была адна — заклікаць людзей на Плошчу для ўдзелу ў беспарадках. У арганізацыі гэтых беспарадкаў, акрамя апазіцыі, беларускія тэлевізійнікі вінавацілі і замежныя сілы.

Адным з найбольш вострых эпізодаў фільма БТ стала выкрыццё каналу пастаўкі зброі і боепрыпасаў у Мінск з Расіі. Па сюжэце фільма, беларускія спецслужбы спыняюць на мяжы групу расійскіх грамадзян, якія вязуць у Мінск гранаты і трацілавыя шашкі. Пасля гэтага ланцужок выводзіць супрацоўнікаў КДБ на склад з боепрыпасамі ў мінскай Малінаўцы.

Ролю складу выконвае звычайны гараж, у якім людзі ў пагонах знаходзяць скрыні з патронамі, трацілавымі шашкамі, некалькі аўтаматаў АК-СУ і нават гранатамёт. Выпадак для Беларусі проста ўнікальны.

Ніколі беларуская апазіцыя не бралася за зброю. Гэта яе лідары знікалі без вестак, а іншых збівалі да паўсмерці.

Пасля выхаду фільма «Плошча. Жалезам па шкле» з Рэдакцыяй «Нашай Нівы» звязаўся чалавек, які пазнаў на кадрах БТ свой гаражны кааператыў. Выявілася, што «склад з боепрыпасамі» знаходзіўся праз некалькі гаражоў ад гаража чытача газеты.

«Гляджу я гэтае кіно, і тут раптам бац — нешта знаёмае», — расказаў нам Уладзімір.

Гараж-склад насамрэч размешчаны ў Малінаўцы, на вуліцы Слабадской. З выгляду — звычайны гараж, якіх паміж вуліцай і МКАД даволі шмат. «Я чаму вам вырашыў паведаміць. Тут шмат нестыковак. У фільме гаварылася, што гараж некалькі месяцаў арандаваўся і не выкарыстоўваўся па прызначэнні, а гэта няпраўда. Я тут часта бачу маладую жанчыну. Яна свой аўтамабіль там ставіць. Снег і цяпер расчышчаны, бачыце? Ну і што яшчэ мяне здзівіла — дык гэта навясны замок, які ў фільме так прыгожа кусачкамі перакусваюць. У нас тут ніколі такіх замкоў не было. Усе ўнутранымі карыстаюцца», — расказаў Уладзімір карэспандэнту «НН» непасрэдна ля «складу».

З замком асобная гісторыя. На кадрах з фільма БТ выразна бачна, што яго там спачатку няма (фота нумар 3 на слайдшоу «НН», трэці гараж ад боку МКАД), а потым яго пачынаюць зразаць (фота 5 у слайдшоу).

Увогуле пытанняў узнікае шмат. Суразмоўца «Нашай Нівы» шмат гадоў жыве ў гэтым раёне і столькі ж валодае гаражом. Чамусьці пасля выкрыцця цэлага складу боепрыпасаў супрацоўнікі спецслужб не толькі не распыталі ўладальнікаў суседніх гаражоў, але нават не апячаталі гараж, дзе былі знойдзеныя аўтаматы, патроны, выбухоўка і гранатамёт.

«Ніхто да мяне не прыходзіў, ні пра што не распытваў. Як так можа быць?» — здзіўляецца Уладзімір.

Тое самае здзіўленне і ў адміністрацыі гаражнага кааператыва. У тэлефоннай размове карэспандэнту «НН» сказалі, што не разумеюць, пра што гаворка, а фільма БТ нават не глядзелі.

Гісторыя з гаражом у Малінаўцы, поўным зброі, насамрэч дзіўная. Асабліва калі ўлічыць, што таямнічыя расійскія кур'еры, затрыманыя на мяжы з Беларуссю яшчэ 15 снежня мінулага года, чамусьці не аб'явіліся ні ў Амерыканцы, ні на Валадарцы.

«У суседнім з маім пад'ездзе нехта з бэтэшнікаў жыве. Я часам бачу, як службовы аўтамабіль з лагатыпам тэлекампаніі заязджае па кагосьці. Магчыма, тут і хаваецца разгадка таямнічага «складу з боепрыпасамі», — сказаў «НН» Уладзімір.

Сапраўды, у доме 117 на вуліцы Слабадской, насупраць гэтых гаражоў, раздавалі кватэры «чэсным журналістам» з БТ і АНТ.

Рэдакцыя спрабуе высветліць, каму ж персанальна належыць гараж, у якім «знайшоўся» гранатамёт.

**Алесь Пілецкі**



**Кадр з фільма «Плошча. Железом по стеклу».**



**Здымак, зроблены на тым самым месцы карэспандэнтам «НН».**



**Кадр з фільма «Плошча. Железом по стеклу». Звярніце ўвагу, што навяснога замка на першых ад левага боку дзвярах яшчэ няма, хоць снег перад імі некрануты.**



**Здымак, зроблены на тым самым месцы карэспандэнтам «НН».**




**Момант разразання навяснога замка. Кадр з фільма «Плошча. Железом по стеклу».**



**Дзверы таго самага «складу боепрыпасаў». Вушкі для замка можна пазнаць па характэрных кропачках.**




**З выгляду — звычайны гараж.**




**А вось што тут, па версіі БТ, знайшлі спецслужбы.**

### Калі вярстаўся нумар

Як паведамілі «Нашай Ніве» ў гаражным кааператыве, гараж нумар 572 належыць супрацоўніку Службы аховы прэзідэнта: «Ён ужо ведае, што яго раскрылі. Ходзіць, галаву апусціўшы».

# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Частка IV.
# Панама

Яны прыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта **Кірыла Краўцоў** — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта **Аўгіня Манцэвіч** — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта **Верасень** — аператар, гітарыст.



Мы экзатычныя госці ў жывым эфіры Панамскага ТБ.

**Працяг. Пачатак у №46, 47 за 2010, № 2, 3 за 2011.**

«Ноў райд ін Панама» — у Панаме няма аўтаспыну, — запэўнівае нас служка евангелісцкай царквы ля костарыканска-панамскай мяжы. І не забывае дадаць, што тут «муі пелігросо», і мы мусім узяць таксі. За час нашага падарожжа мы звыклі да такіх папярэджанняў. Цяпер толькі спакойна ківаем галовамі і кажам: «А як жа мы дасюль дабраліся?» Ды працягваем нашае падарожжа аўтаспынам.

За два дні дабраліся да сталіцы Панамы — горада Панамы, дзе ўкраінская табурэтная каманда ўжо рыхтавала фестываль. Пазванілі каўчсёрферу* Сант'яга, які пагадзіўся ўпісаць нас на час фестывалю. Праз 5 хвілінаў Сант'яга і яго бацькі забралі нас на машыне. І тут жа прапанавалі ехаць да іх на дачу. Мы пагадзіліся.

## Рай на зямлі

Дача апынулася ў казачным месцы на вузенькім паўвостраве на беразе Ціхага акіяну. Выходзіш на палубу дома ў выглядзе карабля, сканструяванага бацькам Сант'яга Францыскам, і глядзіш на хвалі ўсяго за 100 метраў ад сябе.

Побач, дарэчы, востраў, які належаў Джону Уэйну**.

Паводле шчаслівага збегу абставінаў, сям'я Гіральда выявілася калумбійцамі. У Францыска, ці, як яго называюць сябры, Пача, свая фірма грузавых авіяперавозак, і па працы яму давялося пераехаць са сваёй сям'ёй у Панаму. Па працы ж Пача займеў кучу сувязяў. Сярод іх — і знаёмства з калумбійскім консулам у Панаме. Што нам яшчэ трэба?

Два разы (у Мексіцы і Коста-Рыцы) мы безвынікова спрабавалі зрабіць калумбійскія візы. У Панаме пытанне было вырашана за дзень. І нішто не перашкодзіла нам атрымліваць асалоду ад фестывалю.

Дарэчы, у Панаме да нас далучыўся 62-гадовы фін Юка, які збіраецца дайсці з намі да мыса Горн. Аднойчы ён ужо прылятаў у ЗША з мэтаю дапамагчы несці на Агнявую Зямлю табурэтку, аднак не вытрымаў і вярнуўся дадому ў Фінляндыю. Паглядзім, наколькі яго хопіць цяпер.

* Каўчсёрфінг — гасцявая сетка ў інтэрнэце. Сябры сеткі бясплатна даюць адно аднаму начлег у час падарожжаў.

** Джон Уэйн — амерыканскі актор, кароль вэстэрна.

## Краіна аднаго канала

Адно з самых захапляльных відовішчаў у гэтай краіне — Панамскі канал. Ён праходзіць па самай вузкай частцы Панамскага перашыйку і злучае Ціхі акіян з Атлантычным. Яго даўжыня — усяго 81 кіламетр. Будаўніцтва гэтага канала стала адным з самых буйных і цяжкіх праектаў, здзейсненых чалавекам. Дзякуючы яму марскі шлях з Нью-Ёрка ў Сан-Францыска скараціўся з 22,5 тысячаў кіламетраў да 9,5.

Думка пабудаваць канал, які злучыць два акіяны, з'явілася яшчэ ў XVI ст. Аднак кароль Іспаніі Філіп II забараніў праект, бо «тое, што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучыць». У канцы XVIII ст. праект усё ж быў распрацаваны. Аднак першая спроба пабудаваць канал датуецца толькі канцом XIX ст.

Да 1888 года на будаўніцтва канала было выдаткавана грошай у два разы больш за запланаванае, а выкананая была толькі трэцяя частка працаў. Прычынай стаў няправільны праект і, галоўнае, — малярыя і жоўтая ліхаманка, якія скасілі больш за 20 тысяч будаўнікоў канала. Кампанія набыла дурную славу. Некаторыя рабочыя нават прывозілі з сабою ўласныя труны. Урэшце кампанія-падрадчыца збанкрутавала сярод фінансава-карупцыйных скандалаў.

У 1901 годзе Злучаныя Штаты атрымалі выключнае права на будаўніцтва канала. За год да гэтага было выяўлена, што жоўтая ліхаманка перадаецца камарамі, і быў распрацаваны метад барацьбы з хваробаю шляхам вынішчэння камароў. На гэтую аперацыю было накіравана 1500 чалавек. Трэ было высекчы і спаліць 30 квадратных кіламетраў хмызоў, выкасіць і спаліць траву на такой жа тэрыторыі, асушыць больш за 80 гектараў балотаў, выкапаць 76 кіламетраў водаадводных каналаў і распырскаць 568 літраў алеяў, якія знішчаюць лічынкі камароў. Такім чынам, жоўтая ліхаманка знікла, выпадкі малярыі скараціліся.

Будаўніцтва канала заняло 10 гадоў і 70 тысячаў рабочых, з якіх 5600 загінула. Першае судна прайшло па Панамскім канале ў 1914 годзе. Толькі ў 1999 годзе ЗША перадалі кантроль над каналам уладам Панамы.

Большасць рабочых, што будавалі канал, былі з Кітая. Іх нашчадкі і дагэтуль жывуць у Панаме. Гэта краіна, у якой каля 10% насельніцтва складаюць кітайцы. Яны трымаюць амаль усе супермаркеты краіны. Ці варта казаць, што прадукты ў іх самыя танныя.

## Авіястоп у Калумбію

Як дабрацца з Панамы ў Калумбію, мы пачалі думаць задоўга да таго, як трапілі ў Панаму. Дзве краіны раздзяляюць 89 кіламетраў непраходных джунгляў і балотаў Дар'янскага прагале. Прайсці з адной краіны ў другую па зямлі наважваюцца адзінкі, 40% з якіх (як паказвае статыстыка) не выходзяць адтуль жывымі. Кажуць, што нейкі шлях (у тым ліку на лодках) там усё ж ёсць, але карыстаюцца ім выключна гандляры наркотыкамі.

Існуе яшчэ некалькі шляхоў дабрацца да Калумбіі — лодка (за 400 баксаў з носа) і самалёт (за 200).

Калі перасякаеш мяжу на лодцы, адзнаку ў пашпарт не ставяць. У гарадку Пуэрта-Абалдзія ў кагосьці з



Сёрфінг на Ціхім акіяне.



Панама-сіці.



Вось дык сустрэча ў аэрапорце!

**Панама**

краіна між Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкамі. Здабыла незалежнасць у 1903 з дапамогай ЗША, якія хацелі кантролю над зонай Панамскага канала. Назва краіны пайшла ад назвы аднаго з пляжаў, што на мясцовай мове значыла «Мноства рыбы». Плошча 77 тыс. кв. км. Насельніцтва 3,4 млн чалавек. І плошча, і насельніцтва прыкладна ўтрая меншыя, чым у Беларусі. ВУП на душу насельніцтва каля 11,000 даляраў, што ўдвая больш, чым у Беларусі. Цеснае супрацоўніцтва з ЗША і наяўнасць канала паспрыялі эканамічнаму развіццю Панамы. ВУП на душу насельніцтва тут прыкладна ўдвая вышэйшы, чым у суседніх Коста-Рыцы й Калумбіі.

Апошні раз ЗША ўмяшаліся ў палітычнае жыццё Панамы ў 1989 годзе. У 1988 годзе дыктатар Мануэль Нар'ега адмяніў вынікі дэмакратычных выбараў, якія выйгралі ягоныя працiўнікі. У адказ ЗША паслалі ў Панаму войскі, якія сілай адхілілі Нар'егу ад улады. Ён быў асуджаны, адбыў тэрмін за кантрабанду наркотыкаў у ЗША, пасля чаго яго выдалі Францыі, дзе яго судзяць за адмыванне грошай.

памежнікаў ёсць штамп, але, па чутках, ён згубіўся яшчэ ў 2003 годзе, і з таго часу яго ўсё яшчэ не знайшлі.

Яшчэ з самага пачатку Пача, у якога мы спыніліся, сказаў, што можа паспрабаваць выбіць нам дазвол на пералёт у грузавым самалёце. Але, маўляў, надта не спадзявайцеся, дазвол амаль нікому не даюць.

Больш за тыдзень, які мы правялі ў Панаме, Пача так ні з кім і не дамовіўся пра дазвол ляцець грузавым рэйсам. Прызнаўся, што забыў гэта зрабіць. І мы разам з астатнімі табурэтнікамі паехалі ў Калон, што на Атлантычным баку Панамскага перашыйку, каб шукаць на ўсіх лодку.

## Муі-муі пелігросо

У Калоне мы хаваліся ў мясцовым «Макдональдсе» і партыямі адсылалі нашых хлопцаў у парты, каб тыя размаўлялі і дамаўляліся з капітанамі караблёў. Гуляць па горадзе не бачылася магчымым. «Муі пелігросо» тут сапраўды здавалася праўдай. Толькі выйдзеш на вуліцу, тут жа знойдзецца паліцэйскі, які будзе цябе суправаджаць, альбо спыніцца машына, кіроўца якой адразу ж запросіць цябе ў салон, каб толькі ты не хадзіў па вуліцы.

А карабель не разрульваўся. Раптам нам пазваніў Пача і радасна сказаў, што атрымаў дазвол на наш пералёт у Калумбію на грузавым самалёце. Усяго за 40 баксаў аэрапортавага збору. Сапраўды, вельмі шчаслівы збег абставінаў. За год яшчэ нікому не далі дазволу, нават супрацоўнікам кампаніі Пача, якая займаецца грузавымі авіяперавозкамі. Але якраз у той дзень начальнік аддзела авіяцыі Міністэрства транспарту Панамы кудысьці з'ехаў, і яго замяніў сябра нашага Пача.

Мы вярнуліся з Калона ў Панаму. Заўтра ў нас самалёт. Прыехалі ў грузавы аэрапорт. Нас азнаёмілі са спісам тых, хто будзе на борце: пілот, памочнік пілота, інжынер і два пасажыры, то бок мы. Таксама нам уручылі копію дазволу з нашымі прозвішчамі. Знізу — прыпіска: Los mismos estaran acompanando instrumentos musicales ya que son parte de un grupo musical cultural Bielorusa***.

Пакуль чакалі самалёта, пайшлі гуляць па аэрапорце. І раптам бачым — нейкі дзядзька гуляе з мядзведзем. «О, — думаем, — напэўна, цырк кудысьці ляціць». А потым разважаем, мядзьведзь жа буры, наш. І дзядзька змахвае на славяніна. «Where are you from?» — Верасень крычыць услед. «Русія», — адказвае той.

Юра тры гады пр ацаваў з мядзведзем Макарам у Лацінскай Амерыцы. Тры месяцы таму цырк распусцілі, клоўны з'ехалі, а Юра з Макарам засталіся. Авіякампаніі не хочуць браць на борт шасцігадовага мядзведзя. Некалькі месяцаў парачка калясіла па Цэнтральнай Амерыцы ў пошуках магчымасці вярнуцца ў Расію. І вось ужо 19 дзён яны жывуць у гэтым грузавым аэрапорце. Здаецца, з'явілася магчымасць паляцець праз Кубу.

*** Яны будуць суправаджаць музычныя інструменты, якія з'яўляюцца часткай музычнай культуры Беларусі.



Мы ляцім у Калумбію вось на гэтым грузавіку.

Мы пажадалі Юру і Макару дабрацца да радзімы, а самі пайшлі рыхтавацца да палёту. У грузавых самалётах у кабіне пілота, акурат за спінаю кіроўцы авіялайнера, ёсць два пасажырскіх месцы. На іх мы і паляцелі.

## Наш самалёцік

Ніколі не ведала, што ў пілотаў так шмат усякіх кнопак, стрэлак, рычагоў. З цяжкасцю разумею, як яны ва ўсім гэтым разбіраюцца. Але разбіраюцца — гэта факт. Перад самым палётам правяраюць спраўнасць усіх дэталяў, упэўніваюцца, што абодва штурвалы працуюць добра, націскаюць штук 25 розных кнопачак. І — на ўзлёт.

Увесь палёт інжынер правярае нейкія паказчыкі, вылічвае папраўкі, запісвае іх на паперку і аддае пілоту. Пілот па гэтых лічбах падкручвае стрэлачкі на табло. Ляцець разам з пілотамі ў кабіне — адно задавальненне. Па-першае, ніхто не губляе часу і не настройвае на катастрафічны лад, расказваючы, як карыстацца выратавальнай камізэлькай, кіслароднымі маскамі і г.д. Дый па тварах экіпажу, нават калі самалёт вельмі моцна трасе, бачыш, што ўсё ў парадку. Па-другое, пілоты час ад часу адрываюцца ад штурвала, тыкаюць пальцам у акно і кажуць: «Вось гэта — рака Магдалена», «А гэта — Анды».

Неўзабаве сапраўды з'явіліся горы. А ў гарах праз хмары пачалі віднецца гарадкі.

Неверагоднае адчуванне — глядзець не на хмары, якія праплываюць міма маленькага ілюмінатара паўз цябе, а наперад, праз лабавое шкло самалёта.

Ужо падчас прызямлення, за метраў 100 над зямлёю, адзін з пілотаў кідае штурвал і паказвае мне пальцам: «Глядзі, глядзі, гэта даліна Багаты! Вельмі прыгожае месца!»

Так, думаю, чувак, вазьміся, калі ласка, за штурвал.

Карацей, палёт быў нармальны. Мы ў Паўднёвай Амерыцы, у сталіцы Калумбіі — Багаце.

**euroradio.by**

**Працяг будзе.**

Сачы за падарожжам ужывую на users.livejournal.com/litota_

# Бамбізу выкінулі з Белавежскай пушчы

Выканаўцам абавязкаў стаў ягоны намеснік па ідэалогіі.



У адстаўку адпраўлены генеральны дырэктар Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» Мікалай Бамбіза. Паводле чутак, ягонае новае месца працы будзе звязана з «Белаграпрамбанкам». Выканаўцам абавязкаў дырэктара прызначаны намеснік па ідэалогіі Аляксандр Зоцікавіч Шарында.

Клан Бамбізаў застаецца адным з самых моцных «сямейных падрадаў» у беларускай уладзе. Родны брат Мікалая, Сцяпан Бамбіза, — дырэктар Прыпяцкага Нацыянальнага парку. Яшчэ вышэй пайшоў стрыечны брат. Іван Бамбіза быў прэзідэнтам «Белнафтахіма» (1997—2004) і віцэ-прэм'ерам (2004—2010). Цяпер яму прадказваюць дыпламатычную будучыню.

Кар'ерны ўзлёт Мікалая Бамбізы пачаўся ў 1989 годзе, калі ён быў абраны дырэктарам Прыпяцкага дзяржаўнага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка. 35-гадовы кіраўнік запомніўся тым, што актыўна развіваў паляўнічы турызм і лабіраваў адстрэл жывёлы ў запаведніку. Неўзабаве мясціны забрала пад сваю апеку Кіраўніцтва справаў прэзідэнта, а ў кастрычніку 1996 года запаведнік быў рэарганізаваны ў нацыянальны парк. Яшчэ праз год на мяжы парку было пабудавана дрэваперапрацоўчае прадпрыемства.

У 2000 годзе Бамбіза вырашыў ісці ў дэпутаты і нечакана... праваліўся на выбарах.

У якасці «кампенсацыі» ў 2001 годзе Лукашэнка прызначыў яго дырэктарам Белавежскай пушчы. Пры ім быў дазволены адстрэл зуброў у запаведніку і стала актыўна высякацца пушча.

Пра самадурства Бамбізы ходзяць легенды. Вось якое ўражанне склалася ў аднаго з расійскіх падарожнікаў пасля размоў з мясцовымі жыхарамі:

«Напрыклад, Мікалай Бамбіза выдаў пастанову, паводле якой мясцовыя жыхары не могуць без яго персанальнага дазволу прадаць сваё прыватнае жыллё. Паходы за грыбамі і ягадамі таксама строга рэгламентаваныя: Бамбіза падзяліў лес на квадраты і замацаваў іх за населенымі пунктамі. Гэта значыць, дзе табе прадпісана, там і збірай дарункі прыроды, а ступіць налева-направа — нават не думай!

Распавядалі і пра тое, як Бамбіза ставіцца да свайго прозвішча. Калі ў якой-небудзь заяве мясцовага жыхара пішуць: «Ад вось такога і вось такога дырэктару НП БП Бамбізу» [«бамбіза» па-беларуску — лаянкавае слова на высокага, вялікага чалавека, ужываецца ў негатыўным сэнсе»], ён проста рве дакумент, не чытаючы далей, — маўляў, скланяць маё прозвішча нельга».

**Віталь Несцераў**

# Ці будзе Лукашэнка забіраць Леніна?

У Расіі зноў узнялі пытанне пра вынас «правадыра рэвалюцыі» з маўзалея.

Партыя «Адзіная Расія» 21 студзеня, у дзень смерці Уладзіміра Леніна, узняла пытанне пра яго пахаванне. «Я лічу, што кожны год мы мусім уздымаць адно і тое самае пытанне пра вынас цела Леніна з маўзалея», — адзначыў дэпутат Дзярждумы Расіі Уладзімір Мядзінскі і нагадаў агульнавядомы факт: сам Ленін не збіраўся ўзводзіць сабе ніякіх маўзалеяў, а сваякі хацелі пахаваць яго ў Санкт-Пецярбургу, каля маці.

Пытанне пра цела «правадыра сусветнай рэвалюцыі» ўздымаецца не ўпершыню. Але ніколі раней яго не спрабавалі вырашыць з дапамогай інтэрнэту. А цяпер стварылі спецыяльны сайт goodbyelenin.ru, наведнікі якога могуць галасаваць «за» ці «супраць» вынасу Леніна з маўзалея. На момант, калі вярстаўся нумар, 188 тысяч чалавек (каля 70%) прагаласавалі за тое, каб цела пахаваць.

Расійскія камуністы рашуча абурыліся, пераконваючы, што праз інтэрнэт такія рэчы не вырашаюцца, і галасаванне нельга ўспрымаць усур'ёз. І гэта тыя самыя людзі, якія некалькі гадоў таму прапанавалі праехаць з целам Леніна па ўсім былым СССР — і гэта было на поўным сур'ёзе.

Масква пазбаўляецца прыкметаў савечтыны. У адрозненне ад Мінска, дзе для яе створаны сапраўдны запаведнік. Адных помнікаў Леніну ў Мінску дзевяць штук. Цэнтральныя вуліцы — Камуністычныя-Камсамольскія. Мінгарвыканкам валявым рашэннем вярнуў станцыі метро назву «Плошча Леніна», хоць сама плошча — Незалежнасці. Дый самы галоўны сёння расійскі ленінец, Генадзь Зюганаў, карыстаецца ў Беларусі большым попытам, чым дома. Нават быў на інаўгурацыі Лукашэнкі, дзе сядзеў у першым шэрагу, побач з Уладзімірам Макеем.

Цікава, ці беларускія ўлады не прапануюць забраць Леніна сабе? Калі разам з целам Пуцін не аддасць нам маўзалей, правадыра можна паставіць на станцыі метро «Плошча Леніна» — там людзі бясконцым патокам ідуць. Можна — у Нацыянальнай бібліятэцы. А можна на лініі Сталіна ці ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы ў Лепельскім раёне. Дырэктарам маўзалея можа стаць палітэмігрант Бакіеў. Але найлепш надасца і Палац Рэспублікі, які даўно ў народзе клічуць «саркафагам». Тым больш, свой маўзалей можа спатрэбіцца на перспектыву.

Як беларусы ставяцца да магчымасці пераносу Леніна ў Мінск?

### Сяргей Касцян: Толькі ў маўзалеі

«Расія цяжарная новай рэвалюцыяй, і калі яны думаюць, што пахаванне Леніна дапаможа ім утрымацца — яны не маюць рацыі, — эмацыйна пачаў адказ экс-дэпутат палаты прадстаўнікоў, камуніст Сяргей Касцян. — Тым больш гэтае інтэрнэт-галасаванне — падробка, як і ў выпадку з «Імем Расіі», калі праз падробку перамог не Сталін, а нехта старажытны... Калі Пуцін і Мядзведзеў пахаваюць Леніна, для іх не будзе месца ў Расіі, ні жывым, ні мёртвым. А перавозіць Леніна нельга — ён жыў і працаваў у Маскве. І павінен ляжаць толькі там, і толькі ў маўзалеі».



PHOTO.BYMEDIA.NET

У Беларусі вакол Леніна кіпяць зусім іншыя страсці. На фота: 19 снежня.

### Яўген Ліпковіч: Леніна — у Бабруйск

Крэатыўны блогер Яўген Ліпковіч прапанаваў больш брутальнае вырашэнне ленінскай праблемы: «Нафаршаваць мумію Леніна астанкамі царскай сям'і дзеля дасягнення ўсеагульнай згоды і спаліць. Урну з прахам замураваць у вежу «Газпрома». У выпадку калі мумію выставяць на таргі — можна паспрабаваць выкупіць яе. Калі не вельмі дорага, праўда. Будаваць пахавальню не ў Мінску. У Мінску дастаткова Доміка І з'езда РСДРП, які, дарэчы, «зюганоіды» абыходзяць бокам, аддаючы перавагу закрытым фуршэтам у Драздах. У нас ёсць шмат слаўных гарадоў. Лічу, што Бабруйск — прыўкраснае месца для міжнароднага паломніцтва».

**Алесь Сабаленка**

## Здарэнні сцісла

• **Знайшлі труп мінчука, забітага дзеля машыны.** Цела Андрэя Барысава ляжала ў лесе каля вёскі Гузгалаўка на паўднёвым усходзе Мінскага раёна. 28-гадовы мінчук 19 лістапада з'ехаў з хаты прадаваць свой аўтамабіль «БМВ-Х5» і знік. Сустрэча з патэнцыйным пакупніком мела адбыцца каля будаўнічага гіпермаркета «Мацярык» на вуліцы Прытыцкага. На датычнасць да знікнення Барысава правяраецца група расійцаў, так званая «пскоўская банда». Аднаго ўдзельніка злачыннай групы затрымалі на тэрыторыі Беларусі, трох — у РФ.

• **П'яны кіроўца збіў пяць чалавек на прыпынку.** У Мінску ля станцыі метро «Усход» уладальнік аўтамабіля «Ровер-416» выехаў на прыпынак. У яго ў крыві было 2,6 праміле алкаголю (каля бутэлькі гарэлкі). Усе пешаходы, якіх ён збіў, засталіся жывыя. Усіх завезлі ў бальніцу з рознымі пашкоджаннямі.

• **У Оршы затрыманы расійскі кур'ер.** Камерцыйны дырэктар ТАА «Русский вояж» вёз у Беларусь у сваім «БМВ» 177 падробных білетаў банка Расіі, кожны наміналам 5 тысяч расійскіх рублёў. Агульная сума фальшывых грошай склала 885 тыс. расійскіх рублёў. Паводле звестак праваахоўных органаў, кур'ер уваходзіць у склад злачыннай групы, якая займаецца вырабам падробных грошай.

• **Больш за 10 чалавек пацярпелі ў ДТЗ у Бабруйску.** У Бабруйску сутыкнуліся два маршрутныя таксі і легкавы аўтамабіль. Усе аўто адразу пачалі гарэць. У адным з іх знаходзіўся балон з газам. Пасажыры і кіроўцы апынуліся заблакаванымі ў ахопленых полымем машынах. Ім прыйшлося літаральна прарывацца праз агонь. Большасць пасажыраў атрымалі апёкі і пераломы, двое ў рэанімацыі. Паводле папярэдніх звестак, прычынай аварыі стаў легкавы аўтамабіль, які не саступіў дарогу мікрааўтобусу.

**СМ**

## Беларуская мова, якой яна бачылася стагоддзе таму




Нумар часопіса ARCHE прысвечаны беларускай лінгвістыцы 1920-х.

400-старонкавы том склалі невядомыя альбо малавядомыя тэксты айчынных мовазнаўцаў, большасць з якіх была рэпрэсаваная.

«Для публікацыі былі адабраныя важныя працы з лінгвістычнай палемікі 1920-х гадоў. У нумары публікуюцца некалькі прац мовазнаўцаў Міколы Байкова, Анатоля Багдановіча і Льва Цвяткова, аўтараў, лінгвістычная спадчына якіх яўна недаацэнена. У часопісе друкуецца фактычна невядомы водгук пачынальніка беларускай лінгвістыкі Яўхіма Карскага на выданне прац Акадэмічнай канферэнцыі 1926 года. Узнаўляюцца фрагменты палемікі паміж Я.Лёсікам і І.Ваўком-Левановічам, а таксама ўпершыню друкуецца даклад Ваўка-Левановіча «Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы», які выклікаў крытычныя водгукі яго калег і паўплываў на асабісты лёс навукоўца», — адзначыў у прадмове ўкладальнік нумара Сяргей Запрудскі.

**КМ**

# Гутарка

**Святлана Длатоўская.** Жаночая ненародная казка.



Жанчына жыла ў той дзіўны час і была ў тым блаславёным веку, калі яе раўналеткі змушаныя былі ледзь не штотыдзень падфарбоўваць здрадніцкую сівізну і перыядычна, зазвычай напярэдадні вясны, цешыць сябе думкамі пра амаль рэальную магчымасць салодка-злавеснай працэдуры з падступнай назвай «ліпасакцыя». Ашчаджаючы грошы, вырашыўшы не марнаваць іх больш на маскавальныя сродкі, кабетка адпусціла срэбную грыўку а-ля «нямецкая пенсіянерка», але пакуль яшчэ мела ў спісе сваіх выдаткаў шэйп-клуб (забаўку занудотную, але простую і таннейшую за навамодныя высокатэхналагічныя ўздзеянні на арганізм). Там яна, хоць і ўважалася ўсё сваё жыццё за хваравітую недалугу, нават лянуючыся магла даць фору любой з круглатвару раўналетак сваёй дачкі, і гэта цешыла, падвышала самаацэнку, якая перыядычна слізгала кудысь ніжэй за плінтус. Злавіўшы і адмыўшы ўцякачку, цётка раз-пораз дазваляла сабе тое, чаго не магла здзейсніць у свае саўкова-задушлівыя юначыя гады: надзявала маладзевыя джынсы «ў абліпон» і лётала на даўжэзных шпілягах, нагадваючы хутчэй цыбата-чубатую чаплю, хаця многія непрыхавана называлі яе курыцаю. Пэўна, у адзін з такіх момантаў яе і занесла туды, куды чамусьці, як выявілася, залятаць было небяспечна... Карацей, ледзьве не ўляпалася гарай за тую індычку з баршчом...

Тэлефанаванне заспела знянацку. Затлумленая побытавай мітуснёй, жанчына аўтаматычна разляпіла палавінкі парэпанай «нокіі» і, не зважаючы на гукі, што папярэджвалі пра чужака на дроце, сказала «слухаю».

— Я ведаю, што будзеце адмаўляцца, але я б не раіў Вам гэтага рабіць. Тым Вы зробіце толькі горш для сябе, ускладняючы сваё становішча. Таму запішыце, калі ласка, адрас і нумар кабінета... Такі час Вас задаволіць?.. Тады чакаем, усяго найлепшага.

У азначаны дзень і час яна была вольнай, самотнай ды крыху сумнай: перманентны крызіс сярэдняга веку настойліва патрабаваў хоць гады ў рады мяняць атачэнне, новыя джынсы й шпількі прагнулі шпацыру...

......................................................................

— Добры дзень, сядайце вось тут... Мяне клічуць Ё. П. Р., следчы СТУ, назавіце сябе, калі ласка...

З-за стала паглядаў зусім маладзенькі хлапец, вельмі звычайны, амаль не запамінальны з аблічча ўладальнік стомленага бляклага голасу, у адрозненне ад таго, нядаўняга інтрыгоўнага тэлефоннага — металічна-гаджэтнага.

— К. Л. М-Н, — адрэкамендавалася жанчына, прасачыўшы позірк юнака: ну вядома, каго цікавіць ссівелая галава, калі ёсць шчыльна заджынсаваныя сцёгны...

— Як Вы ўжо ведаеце, мы выклікаем для гутаркі ўсіх, хто апынуўся ў гэтым месцы таго самага чысла. Не варта адмаўляць, што Вы там былі, — Ваш тэлефон зафіксаваны ў азначаным квадраце ў перыяд вось з гэтай да гэтай гадзіны. Адкажыце, калі ласка, з якой мэтай Вы туды ішлі і што там рабілі...

— Я ж не магу так адразу засяродзіцца... малады чалавек, па-першае, я прашуназваць усіх прысутных... такая колькасць незнаёмых мужчынаў у зачыненым пакоі прабакуе ў мяне паніку... — заквахтала ўзрушаная наведніца. Павольней, калі ласка, калі я хвалююся, то кепска ўспрымаю інфармацыю на слых... даведзены псіхолагамі факт, вы ж павінны ведаць... Якое званне, прабачце?... Назіральнікі? Ну, вядома, хто ж цяпер супраць назіральнікаў. Чаму не трэба, П.Р. жа піша, хоць кажа, што гутарка... Што Вы там запісалі, спадар следчы? Тлумачальная... Дык перш чым я сцямлю, што адказаць, патлумачце мне ясней, што Вы зараз пра мой тэлефон сказалі?

— К. Л., ваш тэлефон зафіксаваны на азначаным месцы...

— Як гэта зафіксаваны? Свой тэлефон я звычайна нашу ў торбачцы, ніхто яго нідзе не фіксаваў, я б ведала...

— Тэлефон зафіксаваны спецыяльным прыборам, вось раздрукоўка спісаў, гэта Ваш нумар?

— Ну, я тады Аэліта з Марса... Не, я бачыла нешта падобнае ў НТВэшным серыяле, але ж там іншы раз такое паказваюць, няўжо вы, хлопцы, верыце?.. А спісаў я такіх надрукую вам тысячу мільёнаў да неба. Пару гадоў таму, як муж збег, сама пампавала левыя базы з сеціва, каб каханак ягоных вылічыць. І гэтак тады мне карцела займець нешта падобнае, ці дзе жучка набыць... Ды дзе нам, клушам, тое для нас фантастыка...

— Спадарыня, для нас гэта даўно рэальнасць, давайце па справе... голас следчага пачынаў набіраць моцы ды злёгку падрыгваў.

— Па якой? У якасці каго я тады выкліканая, дзе мой пазоў, пратакол, адвакат... усё жыццё на мне нехта ашчаджае... Набраўшы паболей паветра, утаропіўшыся ў столь, кабеціна сілілася згадаць яшчэ нешта з некалі чытанага ў нэце і сакатала на аўтамаце: я не веру ў праўдзівасць вашага сцверджання... Вы змушаеце мяне да самаагавору, канстатуючы нешта нечуванае...

— Факт Вашага недаверу да нашай інфармацыі не мае аніякага значэння... Сур'ёзныя эксперты...

— Каб жа толькі да інфармацыі я не мела даверу... Я ўвогуле не давяраю людзям, якія маюць за ўзор чалавека, што панішчыў процьму невінаватых, не менш сур'ёзныя эксперты тое даўно давялі...

— Што Вы маеце на ўвазе? — падаў голас адзін з прысутных.

— Мужчына, гэтая фраза недапушчальная ў размовах з кабетамі майго веку, хіба Вы не памятаеце той стары савецкі анекдот?..

— Што Вы сабе дазваляеце, Вы выкліканыя на гутарку ў афіцыйную ўстанову...

— Я гутару... Мае паводзіны, як мне падаецца, знаходзяцца ў межах майго разумення гэтага працэсу, калі нешта не так, дайце інструкцыю і патлумачце, чаму я павінна ёй падпарадкоўвацца. Я ж не працую ў вашай афіцыйнай установе...

— К. Л., што Вы можаце нам паведаміць па тым пытанні, што нас цікавіць: Вы самі туды пайшлі ці нехта паклікаў...

— Дзіўныя людзі, вы ж вучылі нешта ў вашай альма матэр, чаму я павінна нешта сведчыць пра сябе малазнаёмым хлопцам пад партрэтам чалавека, які аддаваў загады ніштчыць маіх крэўных?..

— Ды Вы што-о?! — падхапіў прапанаваныя наведніцай інтанацыі другі са старэйшых прысутных. — Ну-ну, падрабязней, адкуль пайшлі і кім былі вашыя продкі...

— Ну, гэта гледзячы адкуль лічыць: калі з цэнтру, то можна сказаць, што найбліжэйшыя мне — навадворскія, а калі... добра... Вы проста правакуеце мяне на прызнанне... Скажу я вам, спадары афіцэры, па сакрэце (голас жанчыны сцішыўся, стаў ніжэйшы, яна пасунулася бліжэй да нездарова, плямамі паружавелага маладзенькага следчага, змусіўшы яго адчуць дух цёплага спатнелага цела, змяшаны з пахам свежазасмажаных катлетаў): даследуючы свой радавод, я высветліла, што наш прэзідэнт даводзіцца мне дзядзькам па бацькоўскай лініі... Вы мне верыце?

— Калі падасцё пераканаўчыя д-доказы... — збянтэжана прамармытаў стомлены хлопец, але...(ці то ідыёцкая заява, ці то нечаканая неадпаведнасць пакоцанага часам твару і амаль дзіцячага стану наведніцы прымусілі яго ўтаропіць вочы ў акно і цяжка, гучна пракаўтнуць паветра. Вуркатанне спусцелага да полудня страўніка знішчыла псеўдасур'ёзнасць тону гутаркі дашчэнту).

— Вось і мне патрэбныя доказы таго, што вы тут цвердзіце, — скарыстаўшыся няёмкасцю паўзы, жанчына зноў затрашчала, бы сарока. — Я патрабую пачытаць інструкцыю да таго цуда-прыбора, даведацца пра прынцып яго работы, наколькі ён надзейны, праўдзівы, дакладны, ці не зашкодзіў ён здароўю жыхароў горада і тэлефонным ці якім іншым апаратам... не ва ўсіх ёсць грошы на новыя... Мала нам Чарнобыля і аўтавыхлапаў... Фактамі фабрыкавання супрацоўнікамі структураў, падобных да вашай, усялякіх непраўдзівых дадзеных сусветная літаратура поўніцца цераз край... Магу даць пачытаць... Чаму фантастыцы з тэлевізара я павінна верыць, а кніжкам — не?

— Скончай гэты цырк на дроце, Ё., вазьмі ў яе адбіткі і хай валіць... — страсянуў застаялае паветра кабінета пагрозлівы рык назіральніка.

— Няўжо яшчэ ёсць дзівакі, што хапаюцца абы за што голымі лапамі... Не, мае пальцы — мая прылада працы і занадта чулліва орган для такой працэдуры, да таго ж, можа быць алергія, потым не расплаціцеся...

— Слухай, ты, «надта разумная»...

— Менавіта так і казаў важак партызанскай хеўры, пазней экс-герой Лунін, перад тым як па п'янай лавачцы знішчыць групу савецкіх выведнікаў. Тыя былі пачалі яму тлумачыць, якім павінен быць партызанскі рух у нашых краёх... Неяк атрымала я паштовачку невядома ад каго, значылася там, што будучыня наша ў нечых руках, і подпіс: Лунін. Я дасюль не скеміла, што гэта значыць...

— Ды папсаваць табе жыццё — раз плюнуць...

— Працуйце над манерамі, афіцэр... Усё, што вы маглі для псавання майго жыцця зрабіць, вы ўжо зрабілі... праўда, цяпер горш можа быць толькі вяртанне майго «сужэнца», што само сабой звядзе на нішто ўсе вашыя папярэднія намаганні...

— Вы марнуеце наш час, а мы занятыя людзі...

— Я не набівалася, яшчэ праз тэлефон хацела сказаць, што мне няма пра што з вамі гутарыць, дык слова не далі ўшчаміць, а мая знаёміца, між іншага, раз назвалася па тэлефоне карэспандэнткай FM-радыёстанцыі і пад выглядам апытання «Хто як правёў лета» раскалола каханка сваёй сяброўкі...

— Вы свабодная, можаце ісці...

— Не ісці, а ехаць — двума відамі транспарту з перасадкай, сюды і назад — 2800, бутэлька малака. Лічыце, падарыла вам за шкоднасць...

"...Мала што падаткі за нечы ідыятызм дзяруць, дык яшчэ і гатоўку... — гугнела сабе пад нос, амаль зляцеўшы з катушак ад узрушэння, гэтая сівая пігаліца. — Блін гарэлы, на трэніроўку спазняюся, а яшчэ памыцца б паспець... на халеру нажэрлася катлетаў на двое сутак наперад?.."

«Чмо на цырлах, а ўсё туды ж, прэцца куды Макар цялят не ганяў... на, падавіся, вазьмі маё дабро і гора-злыбяду ў дадатак», — бязгучна лаяўся ўжо зблелы, з дробнымі кропелькамі на ілбе хлопец-следчы. Выцягнуў з кішэні бруднаватыя бэзавы фанцік купюры і кінуў перад жанчынай на стол. Яна павольна выцягнула шызаваты, як яе галава, гаманец і, падчапіўшы даўгімі пазногцямі за ражок, паклала перад практыкантам спачатку дзве зашмуляныя ўшчэнт зялёненькія паперкі, потым дзве даўжэйшыя сінія: мне лішняга не трэба. Устаючы, агладзіла на сцёгнах і каленьках калашыны навюткіх антрацытавых джынсаў і выйшла, не азірнуўшыся ў бок астатніх мужчынаў.

— Ну што, «спадар следчы» Ё., зноў незалік... Казалі ж: размовы праводзіць — гэта вам не капусту варыць. Практыкуйцеся лепей. Пра тэрмін пераздачы даведаецеся ў дэканаце.

# + Камера (турэмная) у натуральную велічыню

На Управе БНФ адкрылася выстава, прысвечаная падзеям 19 снежня.

Пасля затрымання 19 снежня сотняў удзельнікаў мірнай акцыі на Управе БНФ стыхійна арганізаваўся штаб дапамогі затрыманым. Валанцёры складалі спісы затрыманых, пакавалі перадачы, а потым сустракалі людзей з цукеркамі і гарачай гарбатай. І вось сёння падчас адкрыцця выставы ўжо адпушчаныя затрыманыя і іх «анёлы», якія дапамагалі ім у гэтыя дні са свабоды, сустрэліся, каб падзяліцца ўражаннямі. Некалькі сядзельцаў расказалі, як яны жылі гэтыя дні ў СІЗА. Валанцёры, у сваю чаргу, падзяліліся эмоцыямі ад той хвалі салідарнасці, якая ў гэтыя дні адчувалася на Управе.

«Гэта было найлепшае Раство ў маім жыцці. Не перадаць словамі, якое гэта было свята, калі з суседняй камеры нам перадалі ў прыгожай, выразанай з паперы скрынцы кавалачак сала, кілбасы і часнок», — расказала адна з затрыманых 19 снежня, Дарка, якая адседзела свае суткі ў 10-й камеры СІЗА на вул. Скарыны.

Сёння пражытыя дні ў зняволенні згадваліся з доляй іроніі, пражытае паступова ператвараецца ў гісторыю, а сумныя гістарычныя падзеі выклікаюць усмешку на твары. Старонкі з кнігі «Як гартавалася сталь» замест туалетнай паперы сталіся новымі экспанатамі выставы. Як і сотні лістоў у СІЗА, якія так і не дайшлі да адрасатаў. І інсталяцыя акрэсцінскай камеры з сапраўднымі вынесенымі з турмы кубікамі, зробленымі з хлеба.

Як гэта было, пасля 19 снежня, у фотаздымках і інсталяцыях можна яшчэ да канца месяца паглядзець на выставе на Управе БНФ. Толькі камеру давялося прыбраць праз брак месца.

**Настасся Шамрэй**




АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**3 лютага ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурта Neuro Dubel. **Пачатак а 19-й.**

### Камоцкі ў ТБД

**31 студзеня ў Тэатры беларускай драматургіі** — канцэрт Алеся Камоцкага «Прамінулыя сны». **Пачатак а 19-й.**

### Рок у «Графіці»

**27 студзеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — хардавыя гурты **«Рокаш»**, **J-J Bingz**, **Unia**.

### Apple Tea

**2 лютага ў «Графіці»** — джаз. Зайграе Apple Tea.

### Брамс у Філармоніі

**27 студзеня** Дзяржаўны сімфанічны аркестр і акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы выканаюць «Нямецкі рэквіем» Ёганэса Брамса. **Пачатак а 19-й.** Дырыжор — Энрыке Мацола.

## ВЫСТАВЫ

### Полацкі залаты скарб

**Да 28 студзеня ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Полацкі залаты скарб», на якой можна ўбачыць полацкі скарб X стагоддзя, знойдзены ў 1984 годзе на тэрыторыі Ніжняга Замка ў Полацку.

### Павел Валынцэвіч. Фоталетапіс даўжынёю ў паўстагоддзя

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12) да 3 лютага** працуе выстава фотаздымкаў першай паловы XX стагоддзя, аўтар якіх — праваслаўны святар Павел Валынцэвіч. Асноўную частку экспазіцыі складаюць фотаздымкі, выкананыя з аўтэнтычных негатываў аўтара, акрамя гэтага вашай увазе прапануюцца лічбавыя копіі аўтарскіх фотаздымкаў з сямейнага архіва і прыватных калекцыяў. Самы стары негатыў датуецца 1900 годам, апошні — 1949—1953-м.

### Беларуская скарбніца

**Да 18 лютага ў Гістарычным музеі** — выстава насценнага перакіднога календара «Беларуская скарбніца» і іншых календароў гістарычнай тэматыкі, што пабачылі свет у 2000 — 2010 г.




### Цацкі з валізы. Дзецям 1960—1980-х прысвячаецца…

**У Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (пр. Незалежнасці, 25а) да 15 сакавіка** працуе выстава «Цацкі з валізы», прысвечаная дзецям 1960—1980 гадоў. Мінчукам і жыхарам іншых гарадоў прапанавана пашукаць у сябе дома ўлюбёныя цацкі — старых лялек, жаўнерыкаў, калейдаскопы, ваўчкі, чыгункі і іншыя скарбы свайго дзяцінства.

### Чароўны свет Закулісся

**У галерэі «Вільнюс» (вул. Каліноўскага, 55) да 8 лютага** працуе выстава «Чароўны свет Закулісся», на якой прадстаўленыя бутафорыя, макеты і касцюмы, эскізы касцюмаў і дэкарацыяў, фотаздымкі спектакляў Тэатра юнага гледача…

### Мастацтва Узбекістана

**У Мастацкім музеі да 24 лютага** працуе выстава «Мастацтва Узбекістана».

### У гонар Мулявіна

**У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав. Музычны, 5) да 12 лютага** працуе выстава, прысвечаная Уладзіміру Мулявіну.

### Чароўныя ласкуточкі для сына і дачкі

**У Доме-музеі I з'езда РСДРП (пр.Незалежнасці, 31а) да 28 студзеня** працуе выстава «Чароўныя ласкуточкі для сына і дачкі». Наведвальнікаў выставы пацешыць разнастайнасць вырабаў, выкананых у ласкутнай тэхніцы на тэму Калядаў і Новага года…

### Калядны фэст

**У Палацы мастацтва (вул. Казлова, 3) да 30 студзеня** працуе выстава «Калядны фэст». На выставачнай пляцоўцы прадстаўленыя творы мастакоў, выкананыя ў розных тэхніках.

### Фэст пейзажу, прысвечаны Міжнароднаму году лясоў

**У мастацкай галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі да 28 лютага** працуе выстава, прысвечаная Міжнароднаму году лясоў.

### Каханне ды інш.

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава твораў Андрэя Скіцёва «Каханне ды інш.». Чалавек, чалавечыя пачуцці — гэта тое, што найперш хвалюе аўтара ў навакольным свеце.

### Нам засталася спадчына…

**Да 30 студзеня ў Палацы мастацтва (вул.Казлова, 3)** працуе мастацкая выстава «Нам засталася спадчына…», якая аб'ядноўвае жывапісныя і графічныя працы, створаныя па матэрыялах пленэраў 2010 года, прысвечаных памяці мастакоў XIX стагоддзя: Івана Хруцкага, Яна Дамеля, Яна Лапацінскага.

### Узбагачаючы адно аднаго

**У Музеі сучаснага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава скульптуры «Узбагачаючы адно аднаго», прымеркаваная да юбілею прафесара Акадэміі мастацтваў Анатоля Арцімовіча. На выставе ўпершыню выстаўленыя станковыя творы.

### Моды на Каляды

**У Нацыянальным гістарычным музеі (вул.К.Маркса, 12) да 2 лютага** працуе выстава дызайнерскага адзення. Куратар — Саша Варламаў.

## ІМПРЭЗЫ

### Конкурс акравершаў

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча** працягвае конкурс акравершаў «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...», прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Ганны Какуевай (няшчаснага кахання Максіма Багдановіча). На конкурс прымаюцца літаратурныя творы, напісаныя ў тэхніцы акраверша і дасланыя на адрас музея **да 8 лютага 2011 года**. bagdanovich@tut.by, maksimbagdanovich@rambler.ru.

### Прэзентацыя кнігі Мацкевіча

**27 студзеня ў 18.30 у Галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** — прэзентацыя новай кнігі філосафа Уладзіміра Мацкевіча «Пераацэнка каштоўнасцяў у культуры і гісторыі Беларусі».

### Гістарычная дзея паводле летапісаў «Шлях на Грунвальд»

**27 студзеня а 19-й на сцэне Малой канцэртнай залы імя Рыгора Шырмы Белдзяржфілармоніі** — гістарычная дзея паводле летапісаў «Шлях на Грунвальд».

## ТЭАТРЫ

### 26 студзеня

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Трошкі пяшчоты»
**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»
**Горкага** — «Утаймаванне наравістай»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 27 студзеня

**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Горкага** — «Ніначка»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 28 студзеня

**Лялек** — «Адвечная песня»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Горкага** — «Бег»
**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

### 29 студзеня

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Горкага** — «Зоркі сёмага неба»
**Беларускай драматургіі** — «Чорны квадрат»
**Горкага** — «Сунічная паляна»
**Оперы і балета** — «Снягурка»

### 30 студзеня

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Горкага** — «Пане Каханку»
**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»

### 31 студзеня

**Купалаўскі** — «Вячэра з дурнем»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 1 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Яго апошняе каханне (Лета)»
**Горкага** — «Жаніхі»

### 2 лютага

**Оперы і балета** — «Эсмеральда»
**Горкага** — «Бег»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Вячэра з дурнем»

### 3 лютага

**Оперы і балета** — «Баль-маскарад»
**Купалаўскі** — «Translations»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Горкага** — «Праўда — добра, а шчасце — лепш»

### 4 лютага

**Горкага** — «Ідэальны муж»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

### 5 лютага

**Горкага** — «Царэўна-жабка»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Горкага** — «Ніначка»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «Зіма»

### 6 лютага

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Горкага** — «Пакінутая жанчына (Мачаха)»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

## КІНО

### Добрая раніца з Гарысанам Фордам

ЗША, 2010, каляровы, 107 хв.

**Рэжысёр:** Роджэр Мічэл

**Ролі выконваюць:** Рэйчэл Мак-Адамс, Гарысан Форд, Даян Кітан, Джэф Голдблюм, Патрык Уілсан, Джон Панкоў, Той Барэл

**Жанр:** Камедыйная драма

**Адзнака:** 6,5 (з 10)




Карціна Роджэра Мічэла — кар'ерна-камедыйная драма пра тэлевізійную кухню. На гэтай кухні — зладжаны акторскі ансамбль, нечаканыя досціпы й скандалы. Рэйчэл Мак-Адамс — завадны маторчык карціны. Гарысан Форд — буркліва-атрутная акула журналістыкі. А Даян Кітан — колішняя каралева прыгажосці — тая яшчэ кампаньёнка. У ранішняй кампаніі — запісная дурніца свецкае хронікі, пацешны й палахлівы аматар флюгераў на небяспечных атракцыёнах, жабы, спевакі, дзеткі.

Карціна ставіць герояў і гледачоў перад выбарам: пацяшаць ці быць сур'ёзным, кар'ера — ці жыццё асабістае. Як добрае ранішняе шоу, фільм пацяшае, каб быў час задумацца. А жыццё і кар'еру стужка сплятае са зграбнай галівудскаю лёгкасцю.

«Добрая раніца» — кіно не толькі пра тэлебачанне.

**Андрэй Расінскі**

# Белсат: «Мы не гатовыя прапанаваць працу Сяргею Дарафееву»

«Буду вучыцца, удасканальваць сваю замежную мову і разглядаць прапановы», — расказаў пра свае планы супрацоўнік АНТ Сяргей Дарафееў пасля таго, як страціў эфір. Ягоныя перадачы «Выбар» і «Выбар+» зніклі з праграмы перадач канала.

«Наша Ніва» вырашыла пацікавіцца, ці можа адстаўны вядучы разлічваць на працу на адзіным беларускім недзяржаўным канале «Белсат».

«Мы не гатовыя прапанаваць працу Сяргею Дарафееву», — паведаміў прэс-сакратар Сяргей Пялеса.

19 студзеня Сяргей Дарафееў прызнаў, што ток-шоу «Выбар» не вернецца ў эфір. «Я выйшаў з пазапланавага адпачынку. Сёння ў мяне адбылася сустрэча з кіраўніцтвам канала, дзе было пазначана кола маіх абавязкаў пасля эфіру 19 снежня. Кіраўніцтва той праграмай засталося незадаволенае. Я працягваю заставацца дырэктарам ранішняга вяшчання АНТ.

Дарафееву не даравалі шэрагу пытанняў да Лідзіі Ярмошынай у часе ток-шоу «Выбар», прысвечанага вынікам прэзідэнцкіх выбараў.

Ён спытаў у Ярмошынай, ці бачыла яна ролік, у якім у тэхнікуме куратарка адной з груп патрабуе ад вучняў з’явіцца на датэрміновае галасаванне, і ці з’яўляецца такая сітуацыя парушэннем заканадаўства. «Так, гэта парушэнне», — адказала Ярмошына. «Дык значыцца, выбары прайшлі з парушэннямі?» — падлавіў яе Дарафееў. У выніку Лідзія Ярмошына дэманстратыўна пакінула студыю.

Перадача выклікала асабістую незадаволенасць Аляксандра Лукашэнкі, які падчас прэс-канферэнцыі назваў Дарафеева «хлопчыкам-журналістам, якога трэба паставіць на месца».

**ВН**


PHOTO.BYMEDIA.NET

# Фотафакт — верш Някляева ў цэнтры Мінска



АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

У сталічных кнігарнях ужо немагчыма знайсці кнігі Уладзіміра Някляева. Кадры з яго удзелам выразаюць з расійскага фільма пра Мулявіна.

Наколькі далёка могуць зайсці беларускія ўлады ў сваім змаганні з беларускім паэтам, які наважыўся зрабіць выклік Лукашэнку?

Тут схіляем галовы мы нізка перад мужнасцю вашай,
героі,
перад славаю вашай, што ўстала нязгаснай зарою
на зямлі,
за якую жыццё аддалі
вы, сыны неабсяжнай Радзімы,
Беларусі сыны…
Пабрацімы,
Векапомны ваш подзвіг!
Незабыўныя вашы імёны на гэтай зямлі!

Гэтыя радкі, прысвечаныя ўсім, хто загінуў у Другой сусветнай вайне, Някляеў напісаў па просьбе Пятра Краўчанкі, які ў савецкія часы працаваў сакратаром Мінскага гарадскога камітэта КПБ. Саюз пісьменнікаў таксама абвясціў тады конкурс сярод народных паэтаў, але верш Някляева быў больш удалы.

Цікава, што верш у пераходзе пад плошчай Перамогі размешчаны ў двух варыянтах — беларускамоўным і расійскамоўным. Аднак аўтарства не пазначанае. Аднойчы гэты недахоп спрабаваў выправіць Васіль Быкаў, напісаўшы прозвішча Някляева на мармуры асадкай. Надпіс хутка зацёрся.

Нагадаем, што кандыдат у прэзідэнты, пісьменнік Уладзімір Някляеў быў жорстка збіты ў дзень выбараў 19 снежня і цяпер знаходзіцца ў СІЗА КДБ па абвінавачанні ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

**Алесь Пілецкі**

# Ліса, якая падстрэліла паляўнічага, праславілася на ўвесь свет

Міжнароднае агенцтва Reuters, брытанскія «The Sun», «Telegraph», «Dailymail», нямецкая «Spiegel», шведскія «Dagens Nyheter» і «Helsingborgs Dagblad», літоўскія «Lietuvos rytas» і «Delfi», польскі «Hanter», індыйскі тэлеканал «India TV» ды інш. паведамілі пра беларускую лісіцу, якая неверагодным чынам не толькі пазбегла смерці, але і... падстрэліла паляўнічага і збегла.

Незвычайны выпадак адбыўся 8 студзеня ў лесе ля вёскі Старыя Паддубы. На паляванні 40-гадовы мясцовы жыхар з падстрэліў лісіцу, а дабіць яе вырашыў прыкладам. Калі ён прыціснуў параненую жывёлу да зямлі, тая, змагаючыся, закранула лапамі спускавы механізм. Адбыўся стрэл, і паляўнічы атрымаў скразное раненне сцягна.

Кур’ёзны выпадак апісаў следчым сам пацярпелы. Гэтыя словы пацвердзіў яго родны брат, які з ім паляваў у той дзень. Параненага змясцілі ў бальніцу, справай займаецца раённая міліцыя, якая мусіць высветліць ці насамрэч усё было так, як расказвае гора-паляўнічы, і ці не мог да стрэлу спрычыніцца чалавек.

**Сямён Печанко**

# Напалохаў ваўкоў музыкай з мабілкі

У панядзелак, калі 13-гадовы Вальтэр Эйкрэм, які жыве ў камуне Рэкеста (вобласць Эстфол, на поўдзень ад Осла, Нарвегія), вяртаўся дадому са школы, дарогу яму заступілі чацвёра ваўкоў.

Хлопчык успомніў, што дарослыя вучылі яго не ўцякаць у такіх выпадках, а нападаць самому. Таму ён выцягнуў з кішэні мабільны тэлефон, уключыў яго на поўную гучнасць, знайшоў у плэеры кампазіцыю ў стылі цяжкога металу гурта Megadeth і накіраваў тэлефон у бок ваўкоў.


**Сям’я Эйкрэмаў.**

Няшчасныя жывёлы кінуліся ўроссып, а хлопчык пабег дадому.

**СМ**

## Сапраўдная беларуская кухня

# Мачанкі з блінамі

Гэтая сапраўдная беларуская страва вымагае часу і натхнення для прыгатавання. Але вынік атрымліваецца выдатны.

Спачатку трэба паставіць рошчыну для бліноў, а потым брацца за прыгатаванне самой мачанкі — скаромнай ці поснай, па жаданні.

### Мачанка з рабрынкамі

**250 г свіных рабрынак, 200 г сялянскай каўбасы, 2 цыбуліны, 100 г сала для падсмажвання, 2 ст. лыжкі мукі, лаўровы ліст, сельдэрэй (па жаданні), соль.**

Кавалачкі свініны з рабрынкамі і сялянскай каўбасы абсмажыць. Пшанічную або ячменную муку развесці халоднай вадой, уліць у кіпень, увесь час памешваючы. У падліўку, якая стварылася, пакласці лаўровы ліст, сельдэрэй, соль, падсмажаныя кавалачкі сала і дробна нарэзаную цыбулю, а таксама свініну і каўбасу. Паставіць на 20—25 хвілін у гарачую духоўку. Да мачанкі даць бліны.

### Мачанка з грыбамі і селядцом

**50 г сухіх грыбоў, 1 ст. лыжка мукі, 1 цыбуля, 100 г філе селядца (салёнага), 2 ст. лыжкі алею.**

Грыбы замачыць на 2—3 гадзіны ў халоднай вадзе, вымыць, адварыць без солі. 1 ст. лыжку мукі і столькі ж алею прасмажыць да светла-карычневага колеру і развесці 2 ст. гарачага працэджанага грыбнога булёну. Атрыманы соус варыць пры слабым кіпенні 15--20 хвілін. Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць, дадаць дробна падсмажаныя грыбы і здрабнёнае філе селядца, прасмажыць усё разам, затым пакласці ў соус, дадаць па смаку солі і даць пракіпець. Да мачанкі падаць бліны.

### Бліны да мачанкі (на рошчыне)

**1,5 ст. мукі, 1,5 ст. малака або вады, 1 яйка, 1 ч. лыжка цукру, 20 г дражджэй, 2 вялікія бульбіны, 2 ст. лыжкі алею або маргарыну для цеста, алей для смажання, соль.**

Прыгатаваць апару, для чаго ўліць у начынне 2/3 нормы малака ці вады, падагрэтых да 35—40 °С, развесці ў іх дрожджы, усыпаць палову мукі, размяшаць да аднароднай кансістэнцыі, накрыць палатняным ручніком і паставіць у цёплае месца на 1—1,5 гадзіны.

Калі рошчына падыдзе, дадаць цукар, соль, яйка, алей або маргарын, муку, якая засталася, падагрэтае малако, якое засталося, добра вымешаць і даць падысці ў цёплым месцы, затым зноў перамяшаць цеста і зноў паставіць у цёплае месца. Калі цеста зноў падыдзе, перамяшаць, дадаць натаркаваныя сырыя бульбіны, перамяшаць і выпякаць на алеі.

Падаваць з мачанкай.

**НБ**

## Прыватныя абвесткі

### ДАПАМОГА

**Дапамагу школьніку** даць рады матэматыцы. Т.: (029) 910-45-01.

### ПАДАРОЖЖА

**Шукаем сяброў** для падарожжа 13 лютага па маршруце: Лагойск—Зембін—Студзёнка—Бытча—Старабарысаў—Брылі—Барысаў. У праграме: Лагойск — руіны палаца Тышкевічаў, парк, замчышча, царква Св. Мікалая. Зембін — Успенскі касцёл 1809 г., самы позні барочны будынак Беларусі. Студзёнка — мемарыял на месца Бярэзінскай пераправы 1812 г. Бытча — Траецкая царква. Старабарысаў — сядзібны дом Раманавых канца XIX ст. Брылі — мемарыял вайны 1812 г. Барысаў — Уваскрасенскі сабор, касцёл, будынкі сінагог, ешывы, драўляная стараверская царква. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



Напішы пяць чацьвёрак і так пастаў знакі, каб атрымалася 55, 65, 12.

**Сабрала Валянціна Карнялюк.**
**Адказы глядзі на старонцы 16.**




**Фініта ля камедыя. Кантракт на імпарт нафты заключаны на ўмовах Расіі. Старонка 4**

## Анекдоты

Лукашэнка пагражае Еўропе санкцыямі ў адказ...

* * *

Беларус выходзіць з газавай камеры.

— Таварыш хвашыст, ну колькі можна! Пазаўчора газавая камера, учора газавая камера, сёння зноў газавая камера...

* * *

Заканчэнне тэрміну прыдатнасці ёгурту азначае, што біфідабактэрыі перайшлі на бок зла.

* * *

У СССР пультам ад тэлевізара быў самы малодшы ў сям'і.

* * *

У нашай цывілізацыі ёсць свая машына часу: дастаткова абясточыць любы горад і вы трапляеце ў Сярэднявеччa.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нова-Усурыйск (Усходняя Сібір).** Пры разглядзе акружным судом адной справы аб крадзяжы выявілася, што абвінавачанымі ў крадзяжы былі агенты ахраннага аддзялення: ім пенсіі за службу не плацілі, а дазвалялі замест пенсіі рабіць дробныя крадзяжы. Прыцягнулі пад суд не толькі іх, але і галоўнага паліцмайстра, які завёў такіх сышчыкаў.

**«НН». № 4. 1911.**

**На думку Шарамета,** адстаўкі старшыні КДБ Уладзіміра Мацкевіча і генеральнага пракурора Алега Бажэлкі адбыліся з-за таго, што следчая група атрымала звесткі аб дачыненні некаторых супрацоўнікаў спецбрыгады хуткага рэагавання МУС, якую ўзначальвае Дзмітрый Паўлючэнка, да шэрагу злачынстваў, у тым ліку выкраданняў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі. Паўлючэнку затрымалі. У яго дома і на службе ўсё пер態трэслі. Аднак дзеянні следчых спынілі асабіста сакратар Рады бяспекі Шэйман.

**«НН». № 4. 2001.**

**Адказы да старонкі 15:**

44:4+44=55; 4:4+4х4х4=65; 4:4+44:4=12

# Вышыня Канстытуцыі

Блогеры заўважылі, што падчас прысяг Лукашэнкі Канстытуцыя займала месца ўсё ніжэй і ніжэй. Для прыкладу прыведзеныя здымкі з інаўгурацый 1994, 2001, 2006 і 2011 гадоў.












# Такія розныя інаўгурацыі

Інаўгурацыі прэзідэнтаў, якія перамаглі з вынікам 52%, збіралі дзясяткі тысяч. Лукашэнка «перамог» з вынікам 79% — і пустыя вуліцы.

**alena-klnva.livejournal.com**



**Лулу да Сілва (Бразілія) — 62%.**



**Міхаіл Саакашвілі (Грузія) — 52%.**



**Барак Абама (ЗША) — 52%.**




**Лукашэнка — 79%. Пустынныя вуліцы.**

ФЕЛЬЕТОН

## Службовая запіска МУС РБ прэзідэнту РБ па падзеях 19 снежня

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь
Лукашэнку
Аляксандру Рыгоравічу
міністра ўнутраных спраў
Куляшова Анатоля Нілавіча

запіска

Гэтым дакладваю, што па выніках апытання патэнцыйных удзельнікаў акцыі апазіцыі ў г. Мінску 19 снежня 2010 г. (каля ста тысяч чалавек), чые мабільныя тэлефоны (МТС, Velcom, Life) былі ў зоне прыёму сувязі ў раёне Кастрычніцкай плошчы і плошчы Незалежнасці,

намі выяўлена:

У ГЦ «Сталіца» 19-га назіраўся анамальны наплыў выпадковых кліентаў, які перавысіў 50 тыс. чалавек у перыяд з 20.00 да самага закрыцця.

У гасцініцы «Мінск» павячэралі больш за 5000 чалавек у перыяд ад 20.00 да 23.00.

«Макдональдс» абслужыў больш за 300 тысяч грамадзян на працягу 3 гадзін.

Колькасць наведвальнікаў ГУМа ў гэты дзень здольная была абрынуць будынак. Але будынак, сканструяваны сталінскімі архітэктарамі, вытрымаў шматтысячную плынь аматараў калядных распродажаў.

У кожнага апытанага ў кішэні было ад 3 да 17 тэлефонаў, выпадкова захопленых у сваіх жонак, бацькоў, сяброў і проста знаёмых.

Выснова: у акцыі на плошчы Незалежнасці ўзялі ўдзел 6 апазіцыйных кандыдатаў, 42 іх прыхільнікі, 163 журналісты, 726 разявак (амаль 100% былі затрыманыя і пакараныя адміністрацыйна), а таксама 12 000 работнікаў праваахоўных органаў.

Просім Вас падрыхтаваць загад аб фінансавым узнагароджанні следчых раённых органаў унутраных спраў за праведзеную працу і ануляваць план па раскрывальнасці крымінальных злачынстваў у студзені месяцы г.г. з прычыны поўнай занятасці вышэйапісаным пытаннем.

Міністр унутраных
спраў Беларусі
Куляшоў

**Паводле kolya-lukashenko.blog.ru**



**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**



Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 6700.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**

Нумар падпісаны ў друк 23.00 25.01.2011.

Замова № 387.

Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614